



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

16 чэрвеня 2017 года №24 (1155)


# "Выбіраючы ВНУ, глядзела, якія танцавальныя гурткі яны прапануюць"

## Пераможца "Міс Маладзечна-2016" сёлета скончыла школу

Сёлета пераможца конкурсу "Міс Маладзечна-2016" Лізавета Данілава (злева) скончыла маладзечанскую гімназію №7. Яшчэ год таму самая прыгожая і смелая маладзечанка не ведала, куды будзе паступаць. Мы пагаварылі цяпер, каб дазнацца, якія планы яна мае, куды плануе паступаць. На фота Лізавета з Карынай Гарыст.

Старонка 21

Фота забяспечанае Лізаветай ДАНІЛАВАЙ.



## Эканоміка для чайнікаў: дзе захоўваць грошы – у банку ці пад падушкай?

старонка 2

## Максім Чабрыцкі: футбол – гэта мая свабода

старонка 22



Фота Kurjer.info.

Выбіраць банк ці захоўваць дома? І ў якой валюце захоўваць зберажэнні?

# Эканоміка для чайнікаў

## Дзе захоўваць грошы – у банку ці пад падушкай?

**Галоўнае пры выбары спосабу захоўвання вызначыцца, у якой валюце захоўваць зберажэнні, – лічыць старшы аналітык "Альпары" Вадзім Іосуб.**



Фота euroradio.fm.

Эксперт Вадзім Іосуб.

**– Дапусцім, што ў чалавека ёсць сума, эквівалентная 1 000 долараў. Зыходзячы з якіх крытэраў ён павінны прыняць рашэнне, дзе лепш захоўваць гэтыя грошы – дома пад падушкай або ў банку?**

– Першае пытанне, на якое трэба адказаць чалавеку, – гэта ў якой валюце ён хоча захоўваць зберажэнні: у замежнай або ў беларускіх рублях. Калі ён прымае рашэнне захоўваць у валюце, то цяпер па валютных укладах стаўкі ненамнога вышэйшыя, чым паўпрацэнта гадавых. Таму даход такі ўклад прынясе досыць сціплы. У гэтым выпадку няма прынцыповай розніцы, дзе захоўваць грошы, – дома пад падушкай або ў банку. Гэта фактычна справа кожнага.

Калі ж чалавек вырашае захоўваць зберажэнні ў рублях, то сур'ёзныя сумы пакідаць пад падушкай асаблівага сэнсу ніколі не мелі і не маюць цяпер. Стаўкі па рублёвых дэпазітах паслядоўна змяншаюцца, але ўсё роўна даволі цікавыя. Яны амаль у два разы перавышаюць бягучую інфляцыю. Пры гэтым у кожным канкрэтным выпадку трэба аналізаваць, як надоўга чалавек можа замарозіць грошы на ўкладзе. Найбольш цікавыя максімальныя стаўкі – па доўгатэрміновых безадклікных дэпазітах.

Калі чалавек ведае, што ён можа сабе дазволіць пакласці грошы ў банк на бліжэйшыя два гады і яны яму не спатрэбяцца, то тады трэба спыніць свой выбар на такім дэпазіце. Калі чалавек не ўпэўнены, што можа надоўга замарозіць такую суму, то павінны памятаць, што па кароткатэрміновых і па адклікных, а тым больш па кароткатэрміновых адклікных укладах стаўкі не такія цікавыя. Яны ледзь перавышаюць існуючую інфляцыю.

**– Пытанне, у якой валюце захоўваць зберажэнні, – гэта пытанне толькі пераваг або эксперты могуць параіць, на якой валюце спыніцца?**

– Ні адзін эксперт не можа зазірнуць у будучыню. Ён яе прагназуе, але не ведае дакладна. Таму, я думаю, любыя нармальныя эксперты сышліся б на думцы, што лепшы прынцып – гэта дыверсіфікацыя. Гэта значыць, частку зберажэнняў можна захоўваць у замежнай валюце, частку – у беларускіх рублях. У нас у гісторыі былі моманты, калі было натуральна цалкам ад беларускага рубля пазбаўляцца, калі рубель бесперапынна падаў у адносінах да замежных валют, была інфляцыя.

Цяпер у адносінах да долара рубель умацоўваецца ўжо больш за год, са студзеня 2016-га. Таму тактыка поўнага пазбягання рубля страціла сваю актуальнасць. З улікам адносна высокіх працэнтных ставак па рублю увогуле можна было б рэкамендаваць на дадзеным этапе беларускі рубель як пераважную валюту зберажэнняў.

**Але памятаючы, колькі разоў у гісторыі людзі апякаліся на абвалах рубля, цяжка раіць ім пазбаўляцца ад валюты на карысць беларускага рубля, нягледзячы на тое, што такія паводзіны, магчыма, было б з эканамічнага пункту гледжання рацыянальнымі.**

Такія паводзіны цяжкія псіхалагічна. Таму, каб выканаць баланс паміж прыбытковасцю і псіхалагічным камфортам, разумна падзяліць зберажэнні на рублёвую і валютную часткі.

**– Па дадзеных Нацбанка, у красавіку 2017 года сярэднія стаўкі па рублёвых укладах насельніцтва дасягнулі гістарычнага мінімуму. Што гэта значыць? Для звычайнага чалавека, у якога ёсць рублёвы ўклад, гэта дрэнна?**

– Гэта значыць, што стаўкі паслядоўна зніжаюцца і дасягнулі мінімуму. Большасць укладаў маюць плаваючыя стаўкі, якія зніжаюцца ўслед за стаўкай рэфінансавання. Але хачу звярнуць увагу, што для ўкладчыка мае значэнне не намінальная, а рэальная працэнтная стаўка. Рэальная працэнтная стаўка – гэта намінальная працэнтная стаўка, адкарэктаваная на інфляцыю.

Простае пытанне: стаўка па дэпазіце 20% – гэта добра ці дрэнна? Калі стаўка па дэпазіце 20%, а інфляцыя – 30%, то дрэнна. Калі стаўка па дэпазіце 20%, а інфляцыя – 10%, то добра. З пачатку года Нацбанк зніжаў стаўку рэфінансавання, значыць, зніжаліся стаўкі па дэпазітах. Але адначасова з гэтым хутка зніжалася інфляцыя. Таму рэальная даходнасць, гэта значыць тое, колькі чалавек рэальна зарабляе па дэпазітах, зніжаецца не так хутка, як зніжаюцца намінальныя стаўкі.

**– На што трэба звярнуць увагу, выбіраючы банк? Як вызначыцца з укладам?**

– У Беларусі дастаткова ўнікальная сітуацыя, калі ўклады ў банках гарантаваныя дзяржавай. Таму, з майго пункту погляду, у нас, у адрозненне ад Украіны, Расіі, практычна няма рызыкі таго ці іншага банка. У нас, груба кажучы, ёсць агульная рызыка банкаўскай сістэмы, якая ўпіраецца ў плацежаздольнасць самой дзяржавы. Зыходзячы з гэтага, беларусы знаходзяцца ва ўнікальнай камфортнай сітуацыі.

Мне здаецца, цяпер не варта аналізаваць плацежаздольнасць таго ці іншага банка, можна сканцэнтравацца на выбары максімальнай прыбытковасці.

**– А калі ў чалавека ёсць не 2 000 рублёў, а ўсяго 200, ці ёсць сэнс іх несці ў банк?**

– У тым, каб проста ўзяць 200 рублёў, аднесці іх у банк і там пакінуць, напэўна, вялікага эканамічнага сэнсу няма.

Але калі ў чалавека ёсць пастаянны даход і ён такі, што дазваляе не толькі праядаць усе грошы, але і штомесяц адкладаць, ёсць сэнс пачаць. Аднесці 200 рублёў у банк і далей штомесяц папаўняць рахунак. Калі чалавек абраў такую тактыку, яму варта звярнуць увагу: ці можна будзе рэгулярна папаўняць рахунак.

**Таццяна ГАПЕЕВА.**

**Матэрыял прапанаваны выданнем "Брестская газета".**

ГАСПАДАРУ

# Як прагнаць мурашак з агарода

**З дадзенай праблемай летась сутыкнулася і аўтар артыкула. Мурашкі пасяліліся на градцы з кабачкамі, і колькі ні сыпалі хімічнай "атруты", праз нейкі час яны вярталіся, знішчаючы пасевы.**

У выніку перамаглі мурашкі. Сёлета, ледзь запрыкмецiўшы іх на градцы, вырашыла змагацца з імі народнымі метадамі. Тым больш, што дасведчаныя агароднікі падкінулі некалькі парадаў, як пазбавіцца ад шкодных насякомых, не звяртаючыся да "хіміі", і пры гэтым больш эфектыўна.

### 1. Пазбаўцеся ад тлі.

Часта мурашкі селяцца там, дзе ёсць тля: яны адлоўліваюць гэтых "каровак", нясуць у свае гнёзды і там дояць іх. Пры гэтым усё больш дрэў, кустоў і глебы заражаецца тлёй.

А калі больш тлі, то больш і мурашак. Можна сказаць, яны плодзяць адзін аднаго.

### 2. Вазьміцеся за рыдлёўку

Калі насякомыя з'явіліся на агародзе, то самы час узяцца за рыдлёўку. Капайце глыбей! Каб канчаткова пазбавіцца ад насякомых, неабходна разбурыць іх гнёзды, тады яны самі сыдуць прэч з вашага ўчастка.

Таксама некаторыя агароднікі раяць: каб пазбавіцца ад мурашак, напэўна, трэба дадаць у перакапаную глебу вапну або попел.

3. Рэзкія пахі адпудзяць мурашак.

Пах пятрушкі, піжмы, бацвіння таматаў дапаможа пазбавіцца ад насякомых. Лісце і сцёблы гэтых раслін раскладваюць на мурашыных дарожках або абвязваюць імі ствалы дрэў. З гэтымі ж мэтамі можна пасеяць мяту і валяр'яну паміж градкамі і дрэвамі: водар гэтых раслін прагоніць непрыемных суседзяў на іншае месца.

### 4. Салодкія пасткі.

* На 0,5 літра вады бяром 0,5 чайнай лыжкі борнай кіслаты і 1 сталовую лыжку цукру. Добранька перамешваем, наліваем сумесь у невысокую ёмістасць і ставім на мурашыную сцежку. Перыядычна трэба мяняць старую пастку на новую, пазбаўляючыся пры гэтым ад загінулых мурашак.

* 1 сталовую лыжку дражджэй заліваем халоднай вадой да кансістэнцыі густой смятаны, змешваем, дадаём 1 чайную лыжку варэння і зноў перамешваем. Гэту масу наносім на кавалак кардону і кладзём яго ў месцы вялікай колькасці насякомых. Пасля таго, як яны паласуюцца, то неўзабаве згінуць. Каб сумесь на кардоне не засыхала, прыкрываем яе зверху плёнкай, пакідаючы шчыліну для мурашак. Набеглых у пастку мурашак перыядычна знішчаем.

### 5. Кіпенем па гнёздах.

Увечары трэба цалкам разварушыць мурашынае гняздо і добра паліць яго кіпенем. Так мы знішчым каралеву мурашак і лічынкі. Астатнія мурашкі, калі яны выжывуць пасля гарачай атакі, сыдуць самі.

**Святлана МАЛЫШКА.**
**Матэрыял прапанаваны выданнем "Ганцавіцкі час".**


Фота vrn.kp.ru.

Калі ваш агарод атакавалі насякомыя, ёсць спосабы абараніць свае расліны.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.06 | 15.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8672 | 1,8771 |
| Еўра | 2,1026 | 2,1048 |
| Злоты, 10 | 4,9971 | 5,0072 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2982 | 3,2929 |
| Грыўня, 100 | 7,1271 | 7,2182 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **7.06** | **14.06** |
| Еўра | 2.0900/2.1100 | 2.0900/2.1100 |
| Долар ЗША | 1.8550/1.8720 | 1.8650/1.8800 |



**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 7.06 | 14.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | 16,85 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,93 | 6,93 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,90 | 3,80 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | 13,80 |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | 1,45 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | 2,25 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | 1,70 |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,10 | 2,10 |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | 5,20 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | 1.29 |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | 7.49 |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,59 | 1.80 |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,79 | 1.85 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | 1.69 |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 3,99 | 3.99 |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | 3.50 |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 3,95 | 3.95 |
| Ківі, 1 кг | 4,65 | 4.49 |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,95 | 1.85 |
| Памідоры, 1 кг | 3,00 | 2.70 |
| Агуркі, 1 кг | 1,49 | 1.20 |
| Перац, 1 кг | 6,20 | 6.45 |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | 2.50 |
| Вінаград, 1 кг | 4,95 | 3.95 |
| Клубніцы, 1 кг | 5,50 | 4.00 |
| Чарэшні, 1 кг | 6,95 | 4.95 |
| Персікі, 1 кг | 4,95 | 4.75 |
| Нектарыны, 1 кг | 4,95 | 4.50 |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,50 | 4.75 |
| Бананы, 1 кг | 2,69 | 2.69 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,85 | 1.89 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,69 | 3.69 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | 1,20 |
| Масла, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,80 | 1,69 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | 6,50 |

### Мужчына пацярпеў з-за разрыву ацяпляльнага катла

**МЯДЗЕЛ**

Днём у нядзелю, 11 чэрвеня, выратавальнікам прыйшло паведамленне аб задымленні дома ў Занарачы Мядзельскага раёна.

Калі на месца выкліку прыбылі падраздзяленні МНС, яны высветлілі, што адбыўся выбух ацяпляльнага катла ў падвале дома.

Пацярпеў 34-гадовы жыхар дома, які з апёкамі шпіталізаваны ў рэанімацыю раённай бальніцы. Яго стан цяжкі.

Як высветлілася, мужчына распальваў кацёл для падагрэву вады ў сістэме ацяплення. З-за гэтага і адбыўся разрыў.

Меркаваная прычына здарэння – парушэнне правілаў карыстання ацяпляльнага катла.

Кацёл выбухнуў, разбурылася блочная перагародка ў топачнай і паляцелі шыбы ў верандзе дома.

**Паводле МНС.**

### На Маладзечаншчыне мужчына перакуліўся на ровары з падвясным рухавіком

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 12 чэрвеня каля 7:30 на 15-м кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Хажова-Ермакі.

66-гадовы мужчына ехаў на ровары з падвясным рухавіком "Стэлс-Навігатар" у напрамку вёскі Ермакі. Ён не справіўся з кіраваннем, у выніку ровар перакуліўся на праезнай частцы.

Кіроўца шпіталізаваны з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай лёгкай ступені, страсеннем мазгоў, ударамі лба, носа, вуснаў, пераломам касцей носа.

Мужчына быў у моташлеме. А вадзіцельскага пасведчання адпаведнай катэгорыі не меў, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

### ДАІ правярае хуткасць кіроўцаў па ўсёй краіне

Рэспубліканская акцыя "Хуткасць" праходзіць ад 15 да 18 чэрвеня.

Пра гэта распавёў начальнік Вілейскай дзяржаўтаінспекцыі **Руслан Скварцоў.**

Мэта акцыі палягае ў папярэджанні і спыненні парушальнікаў хуткаснага рэжыму, а таксама ў прадухіленні аварый па прычыне перавышэння хуткасці.

Супрацоўнікі ДАІ падчас акцыі будуць працаваць ва ўзмоцненым рэжыме. Яны будуць выкарыстоўваць аўтамабілі стандартнага выканання.

За перавышэнне хуткасці больш за 10 км/г можна атрымаць штраф да адной базавай велічыні (23 рублі), больш за 20 км/г – да трох базавых (69 рублёў), больш за 30 км/г – да 10 базавых (230 рублёў).

Пры паўторным перавышэнні хуткасці цягам года больш за 20 км/г пагражае штраф да 15 базавых (345 рублёў) ці пазбаўленне правоў на тэрмін да года.

**Аддзел інфармацыі.**

## Грамадзяніна Малдовы затрымалі за парушэнне дэпартацыі

**ВАЛОЖЫН**

**Мужчына паплаціўся за тое, што не стрымаўся ад спакусы трапіць у Беларусь, калі яму быў забаронены ўезд.**



Жаданне адзначыць вяселле з блізкімі кепска закончылася для жаніха.

Фота Pixabay.

Пра гэты выпадак расказала старшы следчы Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч.**

Грамадзянін Малдовы ў сакавіку за парушэнні беларускага заканадаўства быў самалётам дэпартаваны на радзіму. Аднак у Беларусі ў яго засталася жанчына. Яна і дэпартаваны грамадзянін Малдовы вырашылі пабрацца шлюбам. Абаім найбольш зручным горадам для ўзяцця шлюбу быў Смаленск. Там 30 мая маладыя і распісаліся.

Але жанчыне было крыўдна, што ўрачысты момант можа быць не раздзелены са сваякамі. Яна прапанавала адзначыць свята з блізкімі ў Беларусі.

Мужчына без перашкод перасек расійска-беларускую мяжу і ў той жа дзень адзначаў вяселле ў доме нявесты, якая жыве ў Ракаве.

На наступны дзень участковы разам з камісіяй райвыканкама ўдзельнічалі ў праверцы сямей, якія знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы. Камісія завітала і да ўчарашнай нявесты, якая з'яўляецца шматдзетнай маці. Аглядаючы ўмовы жыцця, міліцыянер сустрэўся з маладым мужам гаспадыні. Папрасіў дакументы, і аказалася, што ён не мае права быць у Беларусі.

За парушэнне тэрміну ўезду ў краіну мужчына знаходзіцца пад вартай. Яму пагражае да трох год пазбаўлення свабоды.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## "Ваў, копы прыехалі!"

### ДАІ зладзіла акцыю ў дзіцячым лагеры пад Радашкавічамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Маладзечанская ДАІ разам са сваімі калегамі з Мінска завіталі на базу адпачынку "Падарожнік", каб нагадаць дзецям, якія адпачываюць там у летнім лагеры, пра правілы дарожнага руху.**

На базе адпачынку цяпер адпачываюць 128 дзетак-інвалідаў. Гэта гадаванцы мінскай дапаможнай школы-інтэрната №7, а таксама Радашкавіцкай школы-інтэрната.

Калі ў двор лагера заехала патрульная машына, дзеці здзівіліся і парадаваліся: "Ваў, копы прыехалі"!

А "копы" разам з артыстамі паказалі казку пра Калабка, які мала таго, што збег ад бабулі з дзядулем, дык яшчэ збег па праезнай частцы дарогі.

Падчас канцэрта казачныя героі нагадалі дзецям, якімі небяспечныя бываюць гульні на дарозе.

Разыгралі флікеры, падарункі.

Юныя артысты з творчых калектываў цэнтра "Расток" зладзілі сапраўдны канцэрт.

Пасля мерапрыемства дзецям дазволілі пасядзець у патрульнай машыне, уключыць сірэну, мігалкі, перадаць прывітанне сябрам і педагогам у мегафон.

Інспектары нагадалі і дзецям, і дарослым, што трэба быць асабліва пільнымі, калі пераходзіце дарогу. Абавязкова выцягваць з вушэй навушнікі і не размаўляць па тэлефоне.

Начальнік ДАІ **Дзмітры Юркевіч** сказаў, што з пачатку года на тэрыторы Маладзечанскага раёна на дарогах загінулі чатыры чалавекі. І што на гэтым акцыя ДАІ не заканчваецца. У хуткім часе патрульныя машыны з сірэнамі, мігалкамі і падарункамі для маленькіх пешаходаў завітаюць у іншыя аздараўленчыя лагеры Маладзечанскага раёна.

**Наталля ТУР.**

## Шукаюць пацярпелых ад махляра

Нясвіжскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу адносна жыхара Нясвіжскага раёна **Валерыя Валер'евіча Кабарыха** (на фота).



Ён падазраецца ў тым, што ад студзеня да лістапада 2013 года злоўжываў даверам шэрагу юрыдычных і фізічных асоб. Нібыта пазычаючы грошы, атрымаў больш за 200 000 долараў ЗША.

Мяркуецца, што пацярпелых можа быць больш.

Калі вы пацярпелі ад махлярства Валерыя Кабарыха, звяртайцеся ў Нясвіжскі РАСК па адрасе: ***Нясвіж, вуліца Савецкая, 30.*** Можаце паведаміць пра гэта па тэлефонах: **(801770) 5-92-64, (8029) 389-79-46.**

**Паводле паведамлення Нясвіжскага РАСК.**



### У пажарным вадаёме патануў двухгадовы хлопчык

**МАЛАДЗЕЧНА**

Увечары 9 чэрвеня ў тэхнічным вадаёме каля вёскі Баяры Маладзечанскага раёна патануў двухгадовы хлопчык. Пра гэта TUT.BY распавёў афіцыйны прадстаўнік УУС Мінаблвыканкама **Яўген Сачак.**

Інцыдэнт адбыўся непадалёк ад дачнага ўчастка, куды сям'я прыехала адпачываць.

Па папярэдніх дадзеных, двухгадовы хлопчык са старэйшым братам падышлі да пажарнага вадаёма. Малы зваліўся ў ваду. Хоць дзеці былі пад наглядам, але менавіта ў гэты момант бацькоў не было побач.

Па факце гібелі дзіцяці Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць праверку.

**Паводле tut.by.**

### Двухгадовы хлопчык са Смаргоні трапіў у рэанімацыю пасля таго, як упаў у лесвічны пралёт

**СМАРГОНЬ**

Здарэнне адбылося 8 чэрвеня.

Сям'я падымалася па лесвіцы ў кватэру.

Двухгадовае дзіця бегла наперадзе бацькоў.

Хлопчык выпадкова ўпусціў цацку ў лесвічны пралёт, нахіліўся, каб паглядзець, куды яна паляцела, і ўпаў сам.

Бацькі тут жа выклікалі "хуткую". Хлопчыка даставілі ў рэанімацыйнае аддзяленне.

Цяпер жыццю малога нічога не пагражае.

– Сям'я добрая, гэта іх адзінае дзіця, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" начальнік Смаргонскага Следчага камітэта **Андрэй Рэзін**, – бацькі зрабілі ўсё, каб мінімізаваць наступствы таго падзення. І з парэнчамі ў пад'ездзе ўсё нармальна. Для ўсяго астатняга прызначаная праверка.

**Наталля ТУР.**




Удзельнікі мерапрыемства каля стэнда.



Зміцер Хаценчык на самым вялікім камені Вілейшчыны.

# Вілейскія краязнаўцы ўсталявалі стэнд у Вязыні

ВІЛЕЙКА

**У нядзелю, 11 чэрвеня, вілейская суполка Таварыства аховы помнікаў і культуры ўсталявала інфармацыйны стэнд у вёсцы Вязынь.**

Гэта 11 падобнага роду стэнд, устаноўлены на тэрыторыі Вілейскага раёна. Вязынь – невялікае мястэчка з цікавай гісторыяй, якое ўпершыню згадваецца ў 1430-1432 гадах. Стэнд адлюстроўвае гістарычную інфармацыю самой вёскі. Дзякуючы намаганням **Дзяніса Лісейчыкава** былі адкрытыя новыя факты ў гісторыі ўніяцкай царквы, а дзякуючы роду Лембрыхтаў знойдзеныя "новыя" фотаздымкі млына, які будаваў адзін з іх продкаў.

Пасля ўстаноўкі інфармацыйнага стэнда мясцовыя ўдзельнікі суполкі валанцёраў запрасілі на гарбату. Яны распавялі пра свой валанцёрскі рух, а таксама пра сучасную гісторыю Вязыні.

Пасля актывісты накіраваліся ў вёску Кухты, каб знайсці пагранічны камень. Дзякуючы мясцовым жыхарам, а менавіта **Васілю Мандрыку** і яго бацьку, удалося знайсці. **Аляксандр Зайцаў**, які больш за 20 гадоў займаецца пошукам розных камянёў, знайшоў у старых дакументах за 1771 год згадку пра гэты камень. Ён з'яўляецца адным з самых вялікіх на Вілейшчыне. Яго памеры складаюць 3,9 метра ў даўжыню і 3,6 метра ў шырыню.

Суполка Таварыства аховы помнікаў і культуры выказвае ўдзячнасць усім, хто спрычыніўся да ўстаноўкі стэнда, асабліва **Дзмітрыю Хаценчыку** і **Дзмітрыю Гарланаву** за стварэнне стэнда.

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота забяспечанае Дзянісам КАНЕЦКІМ.**



# "Камарова – кола дзён" запрашае на свята 17 чэрвеня

МЯДЗЕЛ

Традыцыйнае штогадовае свята распачнецца 17 чэрвеня ў 11:30 у вёсцы Камарова Мядзельскага раёна.

Цягам цэлага дня можна будзе паслухаць канцэрт, паўдзельнічаць у конкурсах і гульнях, паспрабаваць сябе ў ганчарным або кавальскім майстэрстве. А яшчэ можна будзе купіць або зрабіць самому нешта з лазы, набыць сувеніры і іншыя вырабы народных майстроў.

– Што будзе незвычайнага сёлета? Дык гэта экскурсія на Блакітныя азёры, што месцяцца непадалёк ад Камарова. Калі набярэцца група, нехта з мясцовых экскурсаводаў правядзе да возера, раскажа пра легенды і паданні, якія звязаныя з возерам, – расказала бухгалтар экалагічнай арганізацыі "Экапартнёрства" **Наталля Нагорная.**

**Наталля ТУР.**

# У Мядзеле пазнаёмяць з Гары Потэрам

МЯДЗЕЛ

У музеі народнай славы пачалася выстава "Па слядах Гары Потэра". Тут наведнікі змогуць здзейсніць вандроўку ў сусвет знакамітага чараўніка Гары Потэра.

На выставе прадстаўленыя разнастайныя экспанаты з прыватнай калекцыі: жывапіс, скульптуры і арт-працы беларускіх і замежных мастакоў, майстроў-прыхільнікаў Гары Потэра і яго сяброў. Тут можна ўбачыць, як выглядае запрашэнне ў школу чараўніцтва і квіток на платформу дзевяць і тры чвэрці, знайсці чароўныя палачкі, паведамляе сайт Мядзельскага райвыканкама.

Працягнецца выстава да 25 жніўня.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Смаргоні запрашаюць правесці летнія канікулы з карысцю

СМАРГОНЬ

Смаргонскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі склаў насычаную праграму для дзяцей падчас летніх канікулаў. Непаседам прапануюць не толькі весела бавіць час, аднак і атрымаць веды ў асобных галінах.

**19 чэрвеня**

**11:00-12:30.** Пазнавальна-гульнёвая праграма "Падарожжа ў краіну "Чамучку" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, вул. Чапаева, 9).

**11:00-12:40.** Гульнёвая пляцоўка "Вясёлкавае лета" ( раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**18:00-19:40.** Дваровая спартыўная пляцоўка "Лета са спортам" (стадыён сярэдняй школы №5).

**20 чэрвеня**

**11:00-12:20.** Раённы фестываль рэкламы "Кім быць" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**16:00-17:40.** Гульнедыскатэка "Смехатэрапія" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**18:00 -19:40.** Дваровая спартыўная пляцоўка "Лета са спортам" (стадыён сярэдняй школы №5).

**18:30-20:30.** Дваровая пляцоўка "Мой двор – мая каманда" (стадыён гімназіі).

**21 чэрвеня**

**11:00-12:30.** Гульнёвая праграма для тых, каму надакучыла быць паслухмяным "Час непаслухмянасці" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**11:00-12:40.** Гульнёвая пляцоўка "Вясёлкавае лета" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, вул. Чапаева, 9).

**18:00-20:00.** Дваровая пляцоўка "Лета кліча!" (стадыён сярэдняй школы №6).

**22 чэрвеня**

**11:00-12:30.** Пазнавальны экскурс "Была вайна" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**18:30-20:30.** Дваровая пляцоўка "Мой двор – мая каманда" (стадыён гімназіі).

**18:00-19:40.** Дваровая спартыўная пляцоўка "Лета са спортам" (стадыён гімназіі).

**23 чэрвеня**

**11:00-12:40.** Казачнае спартыўнае шоу "Будзь заўсёды здаровым, бадзёрым і вясёлым" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**11:00-12:40.** Гульнёвая пляцоўка "Вясёлкавае лета" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**11:00-11:30.** Спартыўна-гульнёвы круіз "Вясёлымі сцежкамі лета" (раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі).

**Смаргонскі раённы цэнтр творчасці і моладзі.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ВІНШАВАНКА

**З Днём медыка!**

Хачу выказаць падзяку доктару **Жанне Іванаўне ДУБРОЎСКАЙ.**

Гэта выдатны спецыяліст 1 класа, добры, спагадлівы, адказны чалавек. Гэта чалавек з вялікай літары.

Таксама выказваю сваю падзяку масажыстам **Жанне Валянцінаўне ВЯРБІЦКАЙ і Ларысе Сямёнаўне МІКУЛІЧ.**

Выказваю шчырую падзяку загадчыку Ільянскай бальніцы **Юрыю Лявонавічу ПАНЯТОЎСКАМУ**, усяму персаналу і работнікам пункта "хуткай дапамогі".

Нізкі паклон Вам!

Віншую ўсіх з вашым прафесійным святам – Днём медыка.

**Інвалід 1 групы з а.г. Ілья ФІЛІСТОВІЧ Віктар Леанідавіч.**

# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Форд-Сіера, 1990 г, 2,0 бензін, добры стан, ёсць тэхагляд, два камплекты гумы, новая зімовая гума, глушыцель, тармазныя дыскі, бак і шмат іншага,1700 (торг). Т. (8-029) 5141783.
- KIA-Спортэйж, 2008 г.в., 2,0 бензін, цёмна-шэры металік, прабег 310 тыс, у добрым стане. Т. (8-029) 6432425.
- Ровар горны камфортны SEDONA DXз вельмі малым прабегам. Колы 26 цаляў. Цана 550 рублёў. Торг да месяца. Падрабязнасці па тэл. (8-029) 6160432.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль, мікрааўтобус у любым стане. Т. (8-029) 3883300.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*
- Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т.(8-029) 5677052.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра па вул. Драздовіча, 2 у Маладзечне, 1/5 дома, санвузел сумешчаны, дом цагляны, 1968 г. пабудовы, аг.пл. 27,6, жыл.пл. 16,5. Нядорага. Т. (8-029) 2488029.
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 88. Т. (8-029) 5634407.*
- 2-павярховы дом у Вілейцы па вул. Юбілейнай,11. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Т. (8-029) 7039162.*
- 2-пакаёвая кватэра з мэбляй у Маладзечне па вул. Лібава-Роменскай, 47, 2 паверх 2-павярховага дома, аг.пл. 46,5, жыл.пл. 30,5, кухня 7,7. Т. (8-029) 5659585.
- 2-пакаёвая прыватызаваная кватэра плошчай 44,3 кв.м, 2 паверх, у г.п. Гарадзея (цукровы завод Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці) альбо памяняю на кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 54-13-55, (8-033) 3423075, (8-029) 9381700.*
- 3-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі, з рамонтам, лоджыя 6 м. Нядорага. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, д. 54. Т. (8-033) 3839112.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, "Зеніт", еўрарамонт. Нядорага. Тэрмінова. Т. (8-029) 1558499.*
- Гараж у Вілейцы, яма, падвал, ГБК-2. Т. (8-029) 2558669.*
- Гараж у ГК №1. Т. (8-029) 2505060, (8-029) 6262756.*
- Дача, 49 км ад Маладзечна, в. Заазер'е, 91,5 км ад вёскі Талуць) на беразе возера, побач лес, рэчка. Цудоўнае месца для адпачынку або адкрыцця аграсядзібы. Гатоўнасць 80%. Т. (8-029) 6631960.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*
- Дом нежылы з участкам у 11,5 соткі ў вёсцы Лебедзева, вул. Савецкая, д. 61. Т. (8-029) 7091821.*
- Дом у в. Елажычы, у добрым стане, на беразе ракі Нарач, побач лес. Т. МТС (8-029) 2635616, Vel (8-029) 6258476.*
- Дом у в. Куранец, участак 20 сотак альбо абмен. Т. МТС (8-029) 7603076.*
- Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у Вілейцы 70 кв.м, бервяно, участак 15 сотак, сад, калодзеж, цана 28 тыс. бел. руб. Т. (8-01771) 21293, (8-01771) 54399.*
- Дом у Вілейцы, дыхтоўны, 60 000 руб. Торг. Т. (8-029) 6147015.*
- Катэдж 5-пакаёвы з лазняй, 2011 г., сучасны, у Мядзеле, 168 000 руб. Т. (8-029) 6414245 (Валянцін).*
- Павільён гандлёвы. Т. (8-029) 6654868.*
- Участак 8 сотак на Браслаўскіх азёрах, 100 метраў ад возера Струста. Т. 98-029) 7040724, (8-029) 6151143.*
- Участак дачны 9 сотак у 3,5 км ад г. Маладзечна, прыватызаваны, у СТ "Міліяратар" (в. Забалоцце). Т. (8-0176) 541355, (8-033) 3423075, (8-029) 9381700.*
- Участак з домам у в. Насілава, 25 сотак. Т. МТС (8-029) 8143388.*

### ЗДАМ

- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, вул. Скарыны, 16-63. Т. (8-0176) 778468.
- Пакой для хлопца ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*





# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- МБ-Спрынтар, суцэльнаметалічны, 4,20х1,75х1,65 м. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катэраў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*
- Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-033) 6228190. Уладзімір.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў, марозільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*
- Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- **ВАГОНКА** (сасна, вольха), **ДОШКА ПАДЛОГІ, ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*
- Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Цэгла віцебская пячная. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бульбакапалка, бульбасаджалка аднарадная, крыху б/у. Т. (8-044) 7192064.*
- Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.
- Трактар самаробны 16 к.с, бензін, Т. (8-029) 5039360, (8-01771) 34305.*
- Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*
- Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

- Распрадам мэблю б/у: мяккі куток, 2 канапы і крэслы, шафа двухстворкавая, тумбачка пад тэлевізар, тэлевізар Soni, тумбачка пад тэлефон, прыхожая, шторы, люстры. Нядорага, выдатны стан. Маладзечна. Т. (8-029) 6870310.

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Вуллі новыя. Танна. Т. (8-0176) 532543, Вэлком (8-029) 9950326.*
- Кабылка маладая. Т. МТС (8-029) 725280.*
- Карова, 6 гадоў, в. Заброддзе Даўгінаўскага с/с Вілейскага раёна. Т. (8-029) 5034539.*
- Куры розных парод: брамы, арпінгтон, фавероль і іншыя. Фазаны залатыя і сярэбраныя. Т. (8-029) 5809602.

**Іншае**

- Электрамаслабойка новая, расійскай вытворчасці, 5 літраў. Т. (8-033) 3423075, (8-029) 9381700, (8-0176) 541355.*

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Матаблок альбо міні-трактар, можна няспраўны. Т. МТС (8-033) 6041637.*
- Мост вядучы і інш. запчасткі да МТЗ-82. Т. (8-029) 8775982.*

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



- **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Бараніна жывой вагой – 4,5 руб, мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359 Віталь.
- Запчасткі да маставых кранаў. Т. Вэлком (8-029) 6764425.*
- Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі ласся, аленя. Т. (8-029) 8552646.*
- Рухавік 2,2-3,0 кВт, 3000 аб./хвіліну, флянцавы. Т. (8-029) 7635624.
- Рухавік 1 кВт, 1000 аб./хвіліну Т. (8-029) 7635624.

### ЗГУБЛЕНА

- Згублены правы на імя Міхаленкі В.М. Таму, хто знойдзе, – узнагарода. Т. (8-029) 8394263, (8-033) 3519233.
- Згубленае пасведчанне інваліда на імя Будрык Марыі-Гелены Міхайлаўны лічыць несапраўдным.

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелачнік. Уцяпленне. Вялікі досвед. Т. (8-029) 2775694.*
- Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*
- Работу печніка і па рэстаўрацыі старых дамоў. Т. (8-025) 6035930.*
- Шукаю падпрацоўку, досвед: усе віды будаўнічых, фасадных, аддзелачных работ. Т. (8-029) 5526667,(8-029) 1881377.*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



# Из лучшего сырья – лучший продукт

## Масла марки Q8 уже в Молодечно

**Думаю, что новость о том, что в Молодечно можно купить масло марки Q8, не оставит равнодушными автовладельцев, которые стремятся, чтобы их машина работала, как часы.**

Ведь крупнейшая кувейтская компания Kuwait Petroleum International Lubricants (KPIL), которая входит в структуру одной из крупнейших мировых нефтяных корпораций Kuwait Petroleum Corporation (KPC) в рейтинге мировых нефтяных компаний занимает 12 место, опережая ЛуКойл и Газпром.

Репутация марки Q8 проверена временем, она имеет 87-летнюю историю и считается одной из лучших в мире. Компания поставляет линейку из более чем 900 наименований, а продукты продаются в 75 странах мира.

### Из чего создают масло Q8

Исходное сырьё для создания масла производится из собственной нефти. Она, как правило, всегда однородна и имеет уникальный химический состав – с очень низким содержанием серы.

Подобные свойства нефти дают возможность производить базовые масла, а в дальнейшем изготавливать из них продукты с максимальной стойкостью к окислению и старению, что обеспечивает отсутствие нагара, долговременную защиту, смазку и чистоту агрегатов.

Сырая кувейтская нефть служит эталоном качества сырой нефти.

> Компания гарантирует постоянство качества своих продуктов, недостижимое для других компаний.

Ведь в её распоряжении три научно-исследовательских центра в Европе, где постоянно ведется научно-технический поиск и совершенствование производственных процессов.

Технология переработки нефти, созданная KPI, признана как позволяющая производить самые чистые базовые масла из всех возможных в Европе. Кроме того, KPIL является одной из немногих компаний в мире, поставляющих свои базовые масла другим производителям смазочных материалов.

### Почему масло Q8 имеет доступную цену

KPC владеет полностью замкнутым циклом от добычи сырья до производства конечного продукта и его реализации, что позволяет компании производить самую современную продукцию при оптимально низких затратах. Это обеспечивает доступные цены на смазочные материалы высших стандартов.

Компания уверяет, что клиенты могут быть полностью уверенными в отличных потребительских свойствах продукта как в настоящем, так и в будущем.

А приобретая смазочные материалы под маркой Q8, вы приобретаете высокотехнологичную продукцию, высокие стандарты и чистое качество. Из лучшего сырья получается лучший продукт.




Масло марки Q8, а также фильтры для автомобиля можно купить в компании "Батрикс" по адресу:

**г. Молодечно, ул. Городокская, 104.**

Контактные телефоны:

**(80176) 58-12-48,
(8029) 63-63-166,
(8033) 323-02-17.**

Опытные специалисты ответят на все интересующие вопросы и дадут дельные советы.

# Усе чатыры стыхіі і пяты элемент

## Смаргонскія вучні на экскурсіі даведаліся, як ствараецца выраб з гліны

СМАРГОНЬ

**Напрыканцы навучальнага года школьнікам сумна развітвацца адно з адным, з любімай настаўніцай. Таму вучні 2 "А" класа школы №7 вырашылі правесці разам яшчэ адзін дзень.**

Бацькі з настаўніцай задумаліся: як зрабіць так, каб дзеці змаглі адпачыць і даведацца пра нешта новае? Чым можна здзівіць сучасных дзяцей? Разыходжанняў у меркаваннях не было – едзем да братоў Нагаевых!

Нябесная канцылярыя вырашыла дагадзіць раслінам і дрэвам і выдала 1 чэрвеня шчодрую порцыю дажджу. Але ці мог дождж спыніць юных турыстаў? Вядома ж, не!

Даехаўшы да мікрараёна Карані на гарадскім аўтобусе, дзеці пад парасонамі накіраваліся ў вёску Святляны. Там жыве і працуе выдатны майстар **Сяргей Нагаеў**.

У печы майстэрні весела патрэскваў агонь, на зэдліку спаў рыжы кот, а за вялікім сталом, усміхаючыся, стаяў Майстар. Менавіта так, Майстар з вялікай літары – так ахрысцілі гаспадара сядзібы дзеці.

З першых momантаў нашай гутаркі і да канца апаведу малыя вандроўнікі не зводзілі вачэй з ганчара і слухалі яго, раскрыўшы рот.

> **Яны, ды і мы, дарослыя, нават не здагадваліся, што для таго, каб зрабіць збаночак ці глячок, трэба задзейнічаць усе чатыры стыхіі свету і так званы "пяты элемент"!**

Сяргей Аляксандравіч расклаў перад намі тонкасці ганчарнага майстэрства. "Сапраўдны філосаф," – прашаптала наша настаўніца. Далей Майстар параўнаў выраб глінянага збаночка з выхаваннем дзяцей. Калі з дабром, цеплынёй, любоўю у сэрцы рабіць збаночак, то ён атрымаецца прыгожы, а калі не, то збаночак атрымаецца крывы. Так і дзеці: калі яны сур'ёзна, з адказнасцю, з павагай будуць адносіцца да сваіх абавязкаў, то і вырастуць з іх добрыя, адказныя, духоўныя людзі.

Усяго і не перакажаш, аб чым распавёў нам Майстар. Упэўнена скажу, што захапіла ўсіх: і дзяцей, і дарослых. Кожны мог набыць на памяць вырабы, паспрабаваць стварыць свой шэдэўр з гліны.

А потым была забаўляльная праграма "Вясёлыя турысты", абед на свежым паветры з шашлыкамі, агароднінай і садавінай, фотасесія на памяць і нават танцы.

Вялікі дзякуй Сяргею Нагаеву за яго гасціннасць, чуласць, урокі жыццёвай мудрасці!

**Валянціна СТУРЛІС, член бацькоўскага камітэта 2 "А" класа СШ №7 Смаргоні.**

## Як правільна зладзіць шашлыкі і развесці касцёр



Адчуць лета на смак – гэта правесці час у добрай кампаніі пад сакавітыя шашлыкі. А як зрабіць гэта правільна, не нарвацца на штраф і не нашкодзіць прыродзе, вы даведаецеся з кароткіх парадаў. Выконвайце нескладаныя правілы і не разводзьце агонь без патрэбы. І тады адпачынак стане прыемным і запамінальным, толькі не пераставайце кантраляваць працэс.



**1 Упэўніцеся, што на тэрыторыі можна разводзіць касцёр.**

Многія тэрыторыі належаць запаведнікам, смажыць шашлыкі ў такіх месцах катэгарычна забаронена. Нельга разводзіць кастры ў хвойных маладняках, каля дрэў, на лесасеках з рэшткамі высякання, на тарфяніках і ўчастках з сухой травой ці мхом, у лесапасадках.



**2 Выкарыстоўвайце мангал.**

Так агонь не будзе перакідвацца на сухія галінкі і лісце. Але калі такой магчымасці няма, трымайцеся Правіл супрацьпажарнай бяспекі.



**3 Выберыце месца.**

Кантраляванае развядзенне кастроў дазваляецца на тэрыторыях базы адпачынку, дачнага кааператыва, прыдамавой тэрыторыі ўчастка. На іх можна размяшчаць спецыяльныя прыстасаванні для гарачага вуголля – мангалы, барбекю, грыль.



**4 Улічыце вецер.**

Разводзіць агонь можна ў бязветраннае надвор'е. Пастаянна кантралюйце працэс.



**5 Паклапаціцеся пра супрацьпажарныя сродкі.**

Вогнетушыльнік, ёмістасць з вадой і рыдлёўка няхай будуць побач.

Калі на доўгі час усталёўваецца гарачае надвор'е, можа быць уведзеная забарона на наведванне лясоў і тарфянікаў. У такі перыяд нельга не толькі разводзіць кастры, але і наогул хадзіць у лес.






**6 Палічыце адлегласць да іншых аб'ектаў.**

Кастры можна разводзіць не бліжэй, чым за **10** метраў ад будынкаў, **20** метраў ад лясных масіваў, **30** метраў ад сціртаў сена і саломы. Калі ў вас мангал – не бліжэй, чым за **4** метры ад будынка.



**7 Патушыце агонь.**

Пакідаючы месца адпачынку, засыпце вогнішча зямлёй ці заліце вадой. Не адыходзьце ад кастра, пакуль вуголле не патухне.



**8 Што будзе за неасцярожнае абыходжанне з агнём.**

– За парушэнне патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах ці на тарфяніках пагражае штраф да **50** базавых велічынь (**1 150** рублёў).

– За выпальванне сухой расліннасці, травы ці за непрыняцце мер па ліквідацыі пажараў можна атрымаць штраф да **40** базавых (**920** рублёў).

– За распальванне кастроў у забароненых месцах пагражае штраф да **12** базавых (**276** рублёў).

© "Рэгіянальная газета" па інфармацыі Маладзечанскага ГРАНС.

### Як правільна паставіць машыну каля вадаёма

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае:

– Забароненая стаянка механічных транспартных сродкаў фізічных асоб у межах прыбярэжных палос водных аб'ектаў да 30 метраў ад берагавой лініі. Выключэнне – спецыяльна адведзеныя месцы для стаянак.

– Забаронена мыць транспартныя і іншыя тэхнічныя сродкі ў межах водаахоўных зон водных аб'ектаў.

Нельга пакідаць на беразе смецце і іншыя адходы. Нельга дапускаць засмечванне і забруджванне вады.

За гэтыя парушэнні прадугледжаная адказнасць у выглядзе штрафу ад 4 да 20 базавых велічынь (92–460 рублёў).

**Пётр ЦЫВІЛЬКА,**
**намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Прачытай, перш чым купацца

## Што абавязкова ведаць, каб адпачынак на вадзе быў прыемны і бяспечны

**Лета ў разгары, і самыя адважныя аматары водных працэдур ужо даўно адкрылі купальны сезон. Нічога дзіўнага, бо ў такую гарачую пару больш за ўсё хочацца праводзіць час на беразе возера ці рэчкі.**

Надзвычайных сітуацый на вадзе варта пазбягаць, аднак, калі вы ці іншыя апынуліся ў форс-мажорных абставінах, неабходна дакладна ведаць, як дзейнічаць.

### Дзеці

Адпраўляючыся з дзеткамі на вадаём, растлумачце ім, як трэба сябе паводзіць, каб не трапіць у бяду. Не выпускайце іх з-пад увагі, заўсёды будзьце напагатове, бо дапамога можа спатрэбіцца малому ў любы момант.

Рана ці позна дзіця пойдзе па вашых слядах, таму ў першую чаргу строга выконвайце правілы паводзін на вадзе самі!

### Выбірайце ўмовы

Адна з праблем падчас плавання – пачуццё меры, якое многія губляюць, забываючы, што доўгае знаходжанне ў вадзе прыводзіць да пераахаладжэння арганізма. Калі вы адчулі дрыжыкі, трэба неадкладна выйсці на бераг і зрабіць кароткую, але энергічную прабежку.

Працягласць купання залежыць ад тэмпературы паветра і вады, сілы ветру. Найбольш спрыяльныя ўмовы – яснае ціхае надвор'е ад + 25°С і вада не ніжэй за + 18°С.

Не кідайцеся з разбегу ў ваду, заходзьце паступова, каб даць целу прывыкнуць да перападу тэмператур і пазбегнуць спазмаў крывяносных сасудаў. Калі вы шмат часу правялі на сонцы, то не спяшайцеся, адыдзіце ў цень, астыньце і толькі потым ідзіце плаваць.

Не варта купацца нашча або адразу пасля яды. Рабіць гэта лепш праз паўтары гадзіны пасля прыёму ежы. Ні ў якім разе не заходзьце ў ваду падчас навальніцы! Навучыцеся адпачываць на вадзе: лежачы на спіне або прыціснуўшы калені і локці да грудзей і жывата (паплаўком).

На далёкіх заплывах эканомна расходуйце сілы, час ад часу адпачывайце. Не адплывайце далёка ад берага на надзіманых матрацах і колах. Калі плаваеце дрэнна, трымайцеся бліжэй да берага, каб у любы момант крануць дно нагамі.

### Калі сутарга, вір ці пачалі тануць

Даволі частая з'ява – сутарга. Яна можа з'явіцца калі заўгодна і дзе заўгодна, таму гатовым трэба быць заўсёды. Калі вы адчулі, што звяло нагу, часцей за ўсё ікраножную мышцу, не панікуйце і не губляйцеся.

Зрабіце глыбокі ўдых і апусціцеся пад ваду з галавой. Моцна ўхапіце рукой вялікі палец і моцна цягніце ступню на сябе, пакуль нага не выпрастаецца цалкам. Адразу ж плывіце да берага.

Яшчэ адна небяспека, якая можа ўзнікнуць, – вір. У такім выпадку варта набраць як мага больш паветра ў лёгкія, пагрузіцца ў ваду і, зрабіўшы рывок у бок плыні, ўсплыць на паверхню. Калі ж вы патрапілі ў моцную плынь, не плывіце супраць яе: выкарыстоўвайце плынь, каб наблізіцца да берага.

Перашкодзіць купанню могуць таксама зараснікі багавіння. Заблытацца ў іх – справа зусім непрыемная, аднак справіцца з раслінамі не так і складана. Трымаючыся на вадзе, спакойна падцягніце ногі і асцярожна вызваліце іх ад водарасцяў.

Самае страшнае, што можа адбыцца, – вы пачалі тануць. Трымаць сябе ў руках у дадзенай сітуацыі вельмі складана, аднак неабходна.

Не боўтайцеся, супакойцеся і перавярніцеся на жывот або на спіну, раскіньце як мага шырэй рукі і ногі – так вы ўсплывяце на паверхню.

Лежачы на жываце, каб зрабіць новы ўдых, падніміце галаву, а затым выдыхайце ў ваду. Лежачы на спіне, дыхайце павольна і глыбока. Не выдыхайце да канца, у лёгкіх заўсёды павінна заставацца паветра, яно будзе падтрымліваць вас. Рукамі крыху заграбайце ваду пад сябе, гэта таксама дапаможа заставацца наплыву. Крыху адпачнуўшы, плывіце да бліжэйшага берага.

### Як ратаваць чалавека, які тоне

У нейкі момант выратаванне можа стаць справай вашых рук, і вы да такога павароту падзей павінны быць гатовыя. Для пачатку паклічце на дапамогу іншых людзей або выратавальнікаў, калі такія ёсць побач. Кіньце таму, хто тоне, выратавальны круг або доўгую вяроўку з вузлом на канцы. Калі ёсць лодка, то падплывіце да чалавека на ёй і паспрабуйце дапамагчы.

Калі ж плаваеце добра і ўпэўнены ў сваіх сілах, паспрабуйце дабрацца да плыўца самастойна. Наблізіўшыся, абхапіце яго ззаду за плечы і паспрабуйце пазбегнуць сутаргавых спробаў ўхапіцца за вас, якія будзе рабіць у паніцы чалавек, які тоне, плывіце з ім назад. Калі ж тапелец без прытомнасці, цягніце яго да берага, узяўшы рукой пад падбародак такім чынам, каб яго твар пастаянна знаходзіўся над паверхняй вады. Прасіце людзей, якія знаходзяцца побач, выклікаць "хуткую". Неадкладна прыступайце да аказання першай дапамогі.

Параліч дыхальнага цэнтра наступае праз 4-6 хвілін пасля апускання пад ваду, а сардэчная дзейнасць можа захоўвацца да 15 хвілін, таму мерапрыемствы па аказанні дапамогі павінны выконвацца хутка. Калі пацярпелы паспеў наглытацца вады ці страціў прытомнасць, неабходна адразу ж выдаліць ваду з яго лёгкіх. Для гэтага пакладзіце яго жыватом на валік ці бервяно або на калена так, каб галава звешвалася ўніз. Затым рэзка націскайце далонямі паміж лапатак. Паўтараць гэту працэдуру варта да таго часу, пакуль з рота пацярпелага не пацячэ вада.

Калі ж дыхаць пацярпелы пасля гэтага не пачне, трэба пераходзіць да сардэчна-лёгачнай рэанімацыі. Перавярніце чалавека на спіну і пакладзіце на цвёрдую паверхню. Ачысціце нос і рот ад бруду і глею. Прыступайце да штучнага дыхання і непрамога масажу сэрца: два ўдыхі – 30 націскаў. Працягвайце датуль, пакуль пацярпелы не зможа дыхаць самастойна ці не прыедзе "хуткая".

Адпачынак ля вадаёма, на жаль, не заўсёды заканчваецца ўдала, таму да любых нечаканасцяў трэба быць гатовым як фізічна, так і псіхалагічна. І тут важна навучыцца кантраляваць сябе ў непрадбачаных абставінах, не даваць страху аваладаць сабою. Памятайце, як толькі вы супакоіцеся і збярэцеся, выхад з сітуацыі, нават надзвычайнай, знайсці будзе значна хутчэй і прасцей!

**Нельга:**

- Заплываць за знакі агароджы і папераджальныя знакі.
- Купацца і ныраць у забароненых і невядомых месцах.
- Купацца п'яным.
- Скакаць у ваду з дамбаў, прыстаняў, лодак, плытоў.
- Дапускаць свавольствы, звязаныя з ныраннем і захопам канечнасцяў таго, хто купаецца, узбірацца на буі і іншыя тэхзбудаванні.
- Падаваць непраўдзівыя сігналы бедства.
- Перамяшчацца ў лодцы з месца на месца пры катанні.
- Выкарыстоўваць для плавання дошкі, бярвенне, надзіманыя матрацы, камеры аўтамашын і іншыя дапаможныя сродкі.

**Старонка падрыхтаваная пры дапамозе Маладзечанскага гаррайаддзела МНС.**

# Скажыце “акцыя” – дадуць зніжку

## Маладзечанец пра першае падарожжа без бацькоў і размеркаванне грошай

МАЛАДЗЕЧНА

**Многія лічаць, што падарожнічаць дорага, а часам патрабуе нямала высілак. Мне 15 гадоў, падарожнічаць пачаў з самага дзяцінства з бацькамі.**


Фота Максіма ДРАГУНА.

Музей гісторыі мастацтваў на плошчы Марыі Тэрэзіі ў Вене.

Мы аб’ездзілі амаль усю Беларусь: Блакітныя азёры, Нарач, Браслаў, Белавежскую пушчу, Нясвіж і Мір. Пабывалі ў розных беларускіх гарадах: Магілёве, Віцебску, Брэсце. Нават паездка да бабулі ў вёску за 300 кіламетраў станавілася невялікім падарожжам.

Можна сказаць, што наша сям’я аб’яднала большасць турыстычных аб’ектаў Беларусі, хаця цікавых месцаў засталося яшчэ вельмі многа.

Сёлета ўпершыню мне ўдалося пабываць за мяжой без бацькоў. Я адправіўся ў аўтобусны тур па Еўропе.

Паездку прапанавала школа. Падрыхтоўка заняла прыкладна месяц. Больш часу спатрэбілася на афармленне дакументаў, менш – на пакупку неабходных рэчаў у дарогу. У вольны час глядзеў разнастайныя відэа, чытаў пра месцы, у якіх хутка змагу пабыць і ўбачыць прыгажосць на свае вочы.

Спачатку тур планавалі на вясенніх канікулах, але пахаладала, падарожжа перанеслі на май. Вядома, было трохі крыўдна, не цярпелася хутчэй паехаць у сваю першую ў жыцці самастойную паездку, але глядзець на славутасці з замерзлым носам таксама не хацелася.

Нарэшце наступіў май, а значыць, і час для доўгачаканай паездкі. Надвор’е было цёплае, шмат рэчаў не трэба было браць.

### Бліснулі ведамі ў чэшскай школе

Першым пунктам на карце стаў горад Брно (Чэхія). Тут нам удалося пагуляць па старых брукаваных вуліцах, паглядзець на старадаўнюю архітэктуру 18 стагоддзя.

У план паездкі ўваходзіла наведванне чэшскай школы, дзе мы пабывалі на трох уроках. Увесь працэс зносін адбываўся на англійскай мове, таму была магчымасць бліснуць ведамі, атрыманымі за дзевяць гадоў.

Побач з горадам размяшчаецца Мараўскі карставы запаведнік, дзе любы ахвотны, заплаціўшы 10-15 еўра і спусціўшыся на фунікулёры, можа палюбавацца найпрыгажэйшымі пагорыстымі краявідамі. Тут можна паглядзець вапняковыя ўтварэнні ўнутры глыбокіх пячор, пакатацца на лодцы ў цеснай цясніне, дзе трэба быць асабліва ўважлівым, каб не атрымаць па галаве выступам.

У запаведніку размяшчаецца самы нізкі пункт Еўропы – бездань Мацоха, 138 метраў у глыбіню. Пасля пячор можна пакаштаваць смачны чэшскі суп.

### У Вену лепш ехаць з ссабойкай

Далей шлях прывёў нас у Вену – сталіцу Аўстрыі. Наша знаёмства з горадам пачалося з плошчы Марыі Тэрэзіі, дзе пачынаюцца ўсе самыя цікавыя турыстычныя маршруты па Вене і яе наваколлях. На плошчы размяшчаюцца два музеі – вытанчаных мастацтваў і прыродазнаўства.

Затым мы адправіліся да палацавага комплексу. Гэта архітэктурны ансамбль, які будаваўся аўстрыйскімі кіраўнікамі на працягу многіх гадоў. Імператары не мелі права жыць у палацы папярэдняга кіраўніка, таму сваім абавязкам лічылі пабудаваць самы вялікі і раскошны палац у горадзе.

Вена – досыць дарагі горад, таму калі вы не жадаеце выдаткаваць 7-10 еўра за просты перакус у кафэ, дзе на гэту суму вам прапануюць невялікі шніцаль памерам з далоньку, лепш вазьміце з сабой што-небудзь перакусіць. А на зэканомленыя грошы купіце сувеніры, яны тут таксама нятанныя.

**Часта на сувенірах можна сустрэць малюнак кенгуру. Узнікае пытанне, прычым тут гэта сумчатае да горада з векавой гісторыяй? Ды ўсё таму, што ў англійскай мове Аўстрыя і Аўстралія падобныя па вымаўленні, ды і ў нас, зрэшты, таксама. Некаторыя амерыканскія турысты ў пошуках кенгуру адпраўляліся ў Аўстрыю. Цяпер не здзіўляйцеся сувенірам з надпісам: “Аўстрыя – не краіна кенгуру!”**

У вольны час можна было зайсці ў адзін з музеяў, у якія да 21 года ўваход бясплатны. Я наведаў музей прыродазнаўства, пазнаёміўся з агромністай калекцыяй прадстаўнікоў флоры і фаўны з розных частак свету.

### Будапешт – горад з дзвюма часткамі: Буда і Пешт

Пасля вытанчанай Вены мы адправіліся ў Будапешт. Горад падзелены на дзве часткі: Буда і Пешт. Будапешт – гэта сталіца-курорт, паколькі тут неверагодная колькасць гарачых мінеральных крыніц.

На жаль, мы былі абмежаваныя ў часе, наведаць купальні не ўдалося, а гэта ж адзін з сімвалаў Будапешта. Таму калі будзе вольны час, не адмаўляйце сабе ў магчымасці расслабіцца ў цёплай вадзе з кубкам венгерскай кавы.

У нас быў вельмі добры гід, які паказаў асноўныя славутасці горада.

Плошчу Герояў – адну са знакамітых у венгерскай сталіцы, размешчаная ў Пешце. У цэнтры размяшчаецца памятны камень, пад якім стаяць статуі венгерскіх кіраўнікоў. З двух бакоў ад манумента знаходзяцца статуі 14 вядомых людзей, а рэльеф пад імі паказвае найважнейшыя гістарычныя падзеі.

Побач з плошчай размешчаны замак Вайдахуняд, пабудаваны ў 1896 годзе з дрэва і кардону да свята тысячагоддзя Венгрыі. Будынак настолькі спадабаўся гараджанам, што вырашылі ўзвесці яго з каменю і цэглы. Цяпер у замку знаходзіцца сельскагаспадарчы музей і сувенірная крама.

### Скажаце “акцыя” – дадуць зніжку

Варта адзначыць, што калі вы захочаце купіць што-небудзь з сувеніраў дадому, то скажыце упэўнена слова “акцыя”, і невялікая зніжка ад прадаўцоў гэтай крамы вам забяспечаная. Таксама тут можна набыць венгерскую папрыку, вырабы з гліны і дрэва і, вядома ж, магніцікі.

Хочацца расказаць і пра іншыя славутасці, якія варта наведаць. Сярод іх Рыбацкі Бастыён, побач з якім размяшчаецца ўтульны магазінчык, дзе любы ахвотны можа купіць вырабы з салодкага марцыпану, будынак венгерскага парламенту, зроблены ў незвычайным архітэктурным стылі, і яшчэ шмат цікавых месцаў, якія варта ўбачыць у гэтым неверагодным горадзе.

Мабыць, Будапешт спадабаўся мне больш за ўсё. Шчырыя і добрыя людзі, прыемная атмасфера, архітэктура і смачная ежа – усё гэта спрыяе таму, што прыехаць сюды захочацца яшчэ не раз.

На гэтым цудоўным горадзе скончылася наша падарожжа, мелася быць дарога дадому праз Польшчу, у якой на грошы, што засталіся, можна было купіць штонебудзь, чаго ў нас няма.

**Паездка абышлася маім бацькам прыкладна ў 250 еўра, усе платныя экскурсіі былі ўключаныя, як і пражыванне ў гатэлях разам з харчаваннем. А колькі грошай браць з сабой на сувеніры і іншыя рэчы – справа кожнага. Мне хапіла 100 еўра на тое, каб прывезці падарункі блізкім, але пры гэтым не скупіць усё, што трэба і не вельмі.**

Паездка была настолькі насычанай, што атрыманых эмоцый хопіць на год наперад. Калі ў вас будзе магчымасць паехаць у новае месца, неабавязкова за мяжу, нават не задумвайцеся, бярыце неабходнае і адпраўляйцеся насустрач прыгодам, бо падарожнічаць не так ужо складана.

**Максім ДРАГУН,**
**Маладзечна.**

# Славутыя землякі з-пад Войстама

Заканчэнне. Пачатак у №№22, 23.

СМАРГОНЬ

**Упершыню імёны добравядомых у другой палове 19 стагоддзя і, на жаль, няпраўдзіва забытых сёння грамадска-культурных дзеячаў нашага краю адкрыў для сябе ў краязнаўчай працы Напалеона Роўбы "Праваднік па Літве і Белай Русі".**




Карта штаба РКЧА з 1938 года.

### Маёнтак Мула

Напрыканцы аповеду нельга абысці ўвагай лёс самога маёнтка Мула. Адна з першых звестак пра яго знаходзіцца ў метрыцы прывілеяў і розных спраў ад 1656 да 1662 года, у час панавання найяснейшага **Яна Казіміра**, караля Польшчы, вялікага князя Літоўскага. У справе, напісанай 8 верасня 1657 года ў Кракаве, апавядаецца аб тым, што вайскоўцам казацкай харугвы **Канстанціну Міхалаву** і **Тэадору Петухам** перайшлі ад **Яна Касцяневіча** і яго сына двор Мула з вёскай Целякі, якія былі размешчаныя ў Ашмянскім павеце.

Населены пункт з такой незвычайнай назвай сустракаецца ў вопісе паселішчаў Войстамскай парафіі Свірскага дэканата ад 1744 года. У наступным вопісе ад 1784 года адзначана, што двор Мула і недалёка размешчаная вёсачка былі ўласнасцю Яснавельможнага пана **Валодзькі** і знаходзіліся за адну вялікую мілю на поўнач ад войстамскага парафіяльнага касцёла.

Пасля 1852 года ўладальнікам маёнтка становіцца Міхал Канткоўскі, а па дадзеных "Слоўніка геаграфічнага Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін" Канткоўскім у 1865 годзе належала і вёска Целякі. Па звестках гэтага ж слоўніка 1885 года выдання, "Мула, шляхецкі фальварак у павеце Свянцянскім, у 4 паліцэйскай акрузе, за 72 вярсты ад Свянцян, 1 жылая пабудова і 8 жыхароў каталіцкага веравызнання". Пасярэдзіне паміж вёскай Целякі і вёскай Семянкі Смаргонскага раёна знаходзіўся ў мінулым маёнтак Мула.

**У гады Першай сусветнай вайны праз паселішча пралягла ваенная мяжа, і ў 1918 годзе ад гаспадаркі не засталося амаль ніякага напаміну.**

У міжваенны час паселішча пакрысе ўзнавілася, і па дадзеных перапісу ад 1931 года фальварак Мула ўваходзіў у войстамскую гміну Вілейскага павета, складаўся з дзвюх жылых пабудоў і ў ім жылі 21 чалавек. Каля аднаўленай мураванай сядзібы і сада на безназоўным ручаі была створаная запруда з млыном.

### "Маёнткі сеюць, вёскі ткуць"

У гэты час значную ўвагу надаюць у Муле льнаводству, падтрымліваючы "льняную акцыю" генерала **Люцыяна Жалігоўскага**. Гэты натхняльнік акцыі лічыў, што на Віленшчыне ўласную гаспадарку павінна адбудаваць ручное ткацтва, і таму прапагандуе лозунг: "Маёнткі сеюць, вёскі ткуць". Вось чаму тут не толькі вырошчвалі лён, але заахвочвалі мясцовых ткачых да працы ў гэтым накірунку. Па ўспамінах жыхаркі суседняй вёскі Семянкі **Г. В. Ляшчэвіч-Мілашэўскай**, 1908 года нараджэння, сталі вядомымі наступныя звесткі: "Недалёка ад бацькоўскай хаты жыла ў сваім двары польская пані **Пяткевіч**. Яна сабрала некалькіх ткачых, і мы ткалі, што яна заказвала. Усё гэта яна прадавала ў Вільні і Польшчы. Мы таксама нядрэнна зараблялі. Я зарабіла, як бы пасаг, 1 тысячу злотых (1 га зямлі каштаваў 500 злотых).

**Запомнілася, што калі ткалі ў пані Пяткевіч, Віленшчыну наведаў польскі прэзідэнт Ігнацы Масціцкі. Ён, паглядзеўшы на маю работу, паціснуў руку і пажадаў поспехаў у працы. Я была ўзнагароджаная паездкай у Вільню на кірмаш – выставу народнай творчасці".**

Паспяхова займаюцца ў маёнтку Мула і малочнай вытворчасцю. У справаздачы за 1931 год, Кола кантролю кароўнікаў, якое існавала ў гэтых мясцінах, узгадваецца **Е. Пяткевіч** з Мулы. У адзначанай гаспадарцы ў той час налічвалася 18 кароў і па іх колькасці ў гэтым рэгіёне яна займала другі радок у спісе, прапусціўшы наперад **Марыю Керсноўскую** з маёнтка Данюшава, якая трымала статак з 46 кароў.

### Не перажыў вайну

Пасля Другой сусветнай вайны Мула ўжо не ўзгадваецца ў афіцыйных дакументах, не сустракаецца населены пункт з такой назвай у пераліку паселішчаў Абрамаўскага сельсавета за 1946 год. Пасля апошняй вайны ў гаспадарчых пабудовах маёнтка пэўны час існаваў калгасны кароўнік, пра што сёння сведчаць адзінокія цэментавыя слупы ад былой канструкцыі.

**Толькі некалькі старых клёнаў прысады, што захаваліся каля дарогі, могуць узгадаць былую веліч паселішча.**

Падаецца цікавым і той факт, што ў двары існавала каталіцкая капліца. Гэтыя звесткі знаходзяцца ў чацвёртым нумары "Дыяцэзіяльнага двухтыднёвіка" ад 25 лютага (10 сакавіка) 1915 года, дзе аўтар матэрыялу пра Войстамскі касцёл ксёндз **Ігнацi Расалоўскі** пазначыў наступнае: "У межах парафіі існуюць капліцы: у Войстамскім двары існавала ў 1788 годзе. На мясцовых могілках драўляная ад 1809 года, пабудаваная ксяндзом **Грынеўскім**, а ў 1890 годзе аднаўленая. У двары Рускае Сяло драўляная, пабудаваная ашмянскім стольнікам **Хамінскім**. У двары Мула драўляная і ў двары Ганута, дзе даўней быў філіял".

Трэба ўдакладніць звесткі і адзначыць, што гэта хрысціянская святыня была пабудаваная не ў самім двары, а побач, недалёка ад вёскі Целякі. Да сённяшніх дзён капліца не захавалася, на месцы прошчы расце кляновая палісада.

Закончыць свой аповед пра славутых землякоў і іх мясціну варта радкамі верша Ніла Гілевіча "Дух Бацькаўшчыны":

*Адкуль бярэцца ён? З травы і зёлак,*
*З лясоў, што засланяюць небасхіл,*
*З крыніц бруістых, з тоняў у азёрах*
*З крыжоў збуцьвелых і з саміх магіл.*

*Куды ні ступіш – скрозь і ўсюды чутна*
*Яго ўсяіснасць. Так задумаў Бог –*
*Каб, як бы ні было табе пакутна,*
*Свой родны край ты разлюбіць не змог.*

Ён дакладна перадае тыя памкненні, якія суправаджалі жыццёвыя шляхі ў нашых мясцінах М. Канткоўскага і А. Пяткевіча, з'яўляецца запаветам для ўсіх суайчыннікаў.

**Уладзімір ПРЫХАЧ.**
**Мапа забяспечаная Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.**

---

КАЛЯНДАР

### 18 ЧЭРВЕНЯ

**Дзень медыцынскіх работнікаў**

### 19 ЧЭРВЕНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння **Пятра Бітэля** (1912 – 1991), беларускага паэта, перакладчыка, настаўніка, праваслаўнага святара. Скончыў беларускую Віленскую настаўніцкую семінарыю (1931). У 1931 – 1939 гадах настаўнічаў. Мабілізаваны падпаручнікам ў польскае войска ў 1939. Прымаў удзел у баях з фашыстамі. Трапіў у савецкі палон. Вывезены ў Арзамас, дзе быў вызвалены. Вярнуўся ў Беларусь.

У 1940 годзе працаваў настаўнікам у Вішневе, пасля дырэктарам СШ №2 Валожына. У 1944 годзе вывезены ў Германію па падазрэнні ў сувязях з партызанамі, вызвалены ў 1945-м, служыў у Чырвонай Арміі. У 1946 – 1947 гадах працаваў настаўнікам, у 1947 годзе звольнены з настаўніцкай працы. Стаў праваслаўным святаром.

У 1950 годзе арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў. Зняволенне адбываў у Кемераўскай вобласці, Омску і Джэзказгане. У 1956 годзе вызвалены. Да 1963 служыў у царкве. У 1963 – 1974 гадах зноў настаўнічаў. Скончыў Мінскі пэдінстытут (1970). Рэабілітаваны ў 1978.

Друкаваўся з 1929 года ў часопісе "Шлях моладзі" пад псеўданімам Леанід з-пад Вішнева. Аўтар паэм "Замкі і людзі" (1968), "Сказанне пра Апанаса Берасцейскага" (1984). Пераклаў на беларускую мову творы А.Міцкевіча ("Пан Тадэвуш", "Конрад Валенрод", "Гражына", "Дзяды", "Крымскія санеты"), польскамоўныя паэмы і п'есы В.Дуніна-Марцінкевіча, аповесць Ю.Крашэўскага "Хата за вёскай", (1989), інш.

Рукапіс перакладу паэмы "Пан Тадэвуш", зроблены ў лагеры на паперы з мяшкоў з-пад цэменту, захоўваецца ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры. Памёр 18 кастрычніка 1991 у Вішневе Валожынскага раёна.

**1924 год.** Нарадзіўся **Васіль Быкаў**, народны пісьменнік Беларусі. Памёр 22 чэрвеня 2003 года. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

### 20 ЧЭРВЕНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння **Канстанціна Паплаўскага** (1912 – 1984), харавога дырыжора, кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

### 22 ЧЭРВЕНЯ

**Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.**

**22-23 чэрвеня.** Міжнародны алімпійскі дзень.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Выпускны баль - 2017

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Сёлета 11 клас у Маладзечне скончылі 711 школьнікаў. 50 з іх атрымалі залатыя медалі, яшчэ трое – сярэбраныя.**



Цяпер у выпускнікоў гарачая пара – цэнтралізаванае тэставанне. Аднак выпускніцы 12-й школы **Настасся Вайцяшонак** (злева), **Настасся Літвінава** і **Таццяна Костачка** з выбарам, у якую ўстанову паступаць, ужо вызначыліся. Настасся Літвінава будзе паступаць у тэхналагічны ўніверсітэт, а сяброўкі – у БДУ. Аднак не ўсе гатовыя дзяліцца падрабязнасцямі сваёй будучыні.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



Вікторыя Комель, Віталіна Вірынская і Вікторыя Монід. Пасля выпускнога балю дзяўчаты разлятуцца, хто куды. Віталіна, як майстар спорту па тайскім боксе, канешне ж, у БДУФК.



Некаторыя ўсур'ез задумаліся пра будучыню яшчэ на ўрачыстасцях, прысвечаных выпускному 2017.



Даша Бацьё на фота з мамай Ксеніяй. Дзяўчына расказала, што паступаць будзе ва ўніверсітэт, звязаны з творчасцю, але куды менавіта – сакрэт, каб не сурочыць.

ТЭМА НУМАРА

# “Выбіраючы ВНУ, глядзела, якія танцавальныя гурткі яны прапануюць”

## Пераможца “Міс Маладзечна-2016” сёлета скончыла школу

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета пераможца конкурсу “Міс Маладзечна-2016” Лізавета Данілава скончыла маладзечанскую гімназію №7.**


Фота забяспечанае Лізаветай ДАНІЛАВАЙ.

Лізавета Данілава з аднакласнікам.

Яшчэ год таму самая прыгожая і смелая маладзечанка не вызначылася дакладна, куды будзе паступаць. Пэўнасць была толькі ў тым, што ні ў якую ўстанову, звязаную з харэаграфіяй, не пойдзе.

Мы сустрэліся з дзяўчынай пасля цэнтралізаванага тэставання па рускай мове, каб пагаварыць пра далейшыя планы.

Адразу ж у вочы кінуліся рукі, размаляваныя чорнай ручкай, пацікавіліся – шпаргалкі рыхтавалі.

– Не, вы што, – усміхнулася Ліза. – На ЦТ і мыш не праскочыць, не тое, каб шпаргалку пранесці і выняць яе падчас напісання задання. Нават калі б і брала з сабой, пабаялася б даставаць – усё сур’ёзна. А рукі распісала, як выйшла з аўдыторыі, пазначыла пытанні, у якіх сумнявалася, каб спытацца ў рэпетытара.

### Не здае чацверты тэст, бо вызначылася са спецыяльнасцю

Да тэста па рускай мове маладзечанка напружана рыхтавалася цягам года па два разы на тыдзень, апошні месяц перад тэставаннем – тры разы на тыдзень. Акрамя гэтага, заканчвала профільны клас па вывучэнні рускай і англійскай моў.

Хоць Ліза і прызнаецца, што тэст быў складаны і падавалася, што многага не ведае, разлічвае набраць больш за 70 балаў. Таксама будзе здаваць англійскую мову і гісторыю.

Сёлета выпускнікам далі магчымасць здаваць чатыры тэсты, каб атрымаць больш магчымасцяў для паступлення. Аднак Ліза не скарыстала гэты шанец.

– Навошта траціць час, калі дакладна вызначылася, чаго хочаш ад жыцця, якую спецыяльнасць плануеш атрымаць, – расказвае выпускніца. – Запаснога аэрадрома не рыхтавала на выпадак, калі не паступлю ў жаданы ўніверсітэт. Ведаю, што ўсё атрымаецца. Тое ж самае тычылася і ўдзелу ў конкурсе “Міс Маладзечна”: верыла, што перамога будзе за мной, так і адбылося. Як кажуць, думка – матэрыяльная.

Дзяўчына будзе паступаць у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Калі не пройдзе па балах, будзе спрабаваць у Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. У далейшым маркуе працаваць перакладчыцай. Калі ж давядзецца быць настаўніцай, гэта не будзе для яе катаргай, бо любіць дзяцей.

– Тым больш перад вачамі прыклад маёй настаўніцы англійскай мовы **Марыны Міхайлавай**, – дзеліцца маладзечанка. – Менавіта яна прышчапіла любоў да англійскай мовы, на яе ўрокі хацелася прыходзіць і вучыць нават звыш таго, што задавала. Настаўніца фізкультуры **Святлана Тышкевіч** – чалавек, які падтрымлівала мяне ў любой сітуацыі, калі даводзілася прапускаць школу, прапаноўвала дапамагчы па вучобе. Увогуле, мне з настаўнікамі вельмі пашанцавала. Калі б не першая настаўніца з другой школы **Ала Будрык**, не пайшла б вучыцца ў сёмую гімназію.

### Прагульвала тыднямі

Дзяўчына прызнаецца, што ў школе не была прыкладнай вучаніцай, асабліва з пятага па сёмы клас.

– Прагульвала, – прызнаецца Лізавета. – Але не ў звыклым сэнсе гэтага слова. Не хадзіла на заняткі, таму што ўдзельнічала ў разнастайных харэаграфічных конкурсах. Магла тыднямі на вучобе не з’яўляцца. Але потым наганяла, дзякуй настаўнікам, якія з разуменнем да гэтага ставіліся і дапамагалі ва ўсім разабрацца.

Выпускніца прызнаецца, што ні на каго з аднакласнікаў не раўнялася. Мама вучыла, што ты не павінна ні на каго глядзець, а заставацца самой сабой і самастойна адказваць за свае ўчынкі.

– Неяк на вучобе атрымала чацвёрку, – расказвае Лізавета. – Ведала, што мама не будзе сварыцца, аднак хацелася паказаць, што лепшая за іншых. Паказваю адзнаку ў дзённіку і гавару: “Але ж у мяне не самая горшая, былі і тройкі!” Мама тады і патлумачыла – адказвай толькі за сябе, іншыя няхай самі адказваюць за свае ўчынкі. Яна вучыла мяне быць індывідуальнай, не такой, як усе.

### Выбіраючы ВНУ, глядзела танцавальныя гурткі

Выдатніцай дзяўчына не была, трымалася ў залатой сярэдзіне. Як прызнаецца, ніколі і не імкнулася атрымаць найвышэйшую адзнаку, не марыла пра залаты медаль.

– Калі б не танцы, усё б было ў маіх руках, – дзеліцца былая школьніца. – Я настолькі імі захапілася, што яны сталі маім жыццём. Нават выбіраючы ВНУ, глядзела, якія танцавальныя гурткі яны прапануюць. Таму можна сказаць, што вызначылася не толькі з тым, куды буду паступаць, але і з тым, як буду бавіць вольны час. Мае аднакласнікі атрымалі залатыя медалі, аднак і да цяперашняга часу не магу зразумець, як у іх гэта атрымалася – медалі не даюцца проста. Аднак ведаю, што яны літаральна ўсіх сябе аддавалі вучобе, каб скончыць “на выдатна”.

Дзяўчына адзначае, што ў школе было шмат прыемных, шчаслівых момантаў, якія запомніць на ўсё жыццё. Аднак з большай цеплынёй будзе ўспамінаць лінейку і выпускны. Яна лічыць, што менавіта гэтыя падзеі яшчэ больш з’яднали з аднакласнікамі.

## 165 школьнікаў рэгіёна атрымалі залатыя медалі, у чатырох раёнах не было сярэбраных медалістаў

**Сёлета ў рэгіёне было 2076 выпускнікоў 11 класаў. 165 з іх скончылі школу з залатымі медалямі, 7 школьнікаў атрымалі сярэбраныя медалі.**

| Раён | Колькасць выпускнікоў | Колькасць школьнікаў з залатымі медалямі | Колькасць школьнікаў з сярэбранымі медалямі | % школьнікаў з залатымі медалямі |
|---|---|---|---|---|
| Маладзечанскі | 711 | 50 | 3 | 7 |
| Вілейскі | 290 | 11 | 2 | 3,8 |
| Астравецкі | 194 | 10 | – | 5,2 |
| Мядзельскі | 204 | 6 | – | 2,9 |
| Смаргонскі | 309 | 34 | – | 11 |
| **Ашмянскі** | **174** | **32** | **–** | **18,4** |
| Валожынскі | 194 | 22 | 2 | 11,3 |
| **Усяго** | **2076** | **165** | **7** | **7,9** |

## Калі залаты медаль быў сапраўды залатым

У Савецкім Саюзе з 1945 года школьныя медалі ўвялі пастановай Савета Народных Камісараў. Залатыя і сярэбраныя медалі рабілі з золата 583 пробы і серабра 925 пробы.

1954 год – змяніліся тэхнічныя ўмовы вытворчасці залатых медалёў, іх проба была паніжаная да 375, зменшылася і колькасць золата ў медалі. Сярэбраныя медалі засталіся без зменаў.

У 1960 годзе ўводзяць новыя ўзоры школьных медалёў “За выдатныя поспехі ў вучобе, працы і за прыкладныя паводзіны”. Дыяметр медалёў павялічыўся да 40 мм, матэрыял вытворчасці зменены на томпак для залатых медалёў і мельхіёр для сярэбраных. Каштоўныя металы засталіся толькі ў выглядзе напылення.

1968 год – спыненае ўзнагароджанне сярэбранымі медалямі.

1985 год – аднавілі сярэбраны медаль з нязначным змяненнем – у адрозненне ад залатога медаля, слова “выдатныя” на медалі адсутнічала.

Цяпер у Беларусі залаты медаль залатым можна назваць умоўна. Яго выпускаюць з медна-нікелевага сплаву і каб дабіцца колеру, максімальна падобнага да залатога, на ўзнагароду наносяць пакрыццё нітрату тытану. Важыць “залаты” медаль 33-34 грамы.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Шэсць парадаў, як самому навучыцца гуляць у шахматы

Сёння я паспрабую даць шмат парадаў, каб самастойнае навучанне гульні ў шахматы прайшло ў вас з цікавасцю, эфектыўна і выніковa.

Лепш мець пад рукой партнёра, які ўжо ўмее гуляць. У маім выпадку быў сусед дзядзька Міша, а менавіта **Міхаіл Рубін**. І ў мяне стаяла задача навучыцца абыгрываць дзядзьку Мішу. Я справіўся за пару месяцаў сур'ёзнага захаплення шахматамі. Пастаўце і вы перад сабой першую задачу – навучыцца абыгрываць "дзядзьку Мішу".

Я буду бясконца рады, калі нехта паставіць перад сабой звышзадачу – навучыцца абыгрываць у шахматы мяне. Гэта вельмі сур'ёзная задача, і ў сур'ёзныя шахматы яна пакуль у Маладзечне нікому не скарылася. На гэты адказны шлях пры добрым раскладзе спатрэбіцца гадоў дзесяць, але горад "набудзе" гросмайстра. І я буду бязмежна ганарыцца!

1. Паглядзіце шахматны фільм пра Бобі Фішэра "Ахвяруючы пешкай".

2. На канале "ютуб" у інтэрнэце можна паглядзець у разборы і дынаміцы шмат шахматных партый. Дастаткова ў пошукавым акне набраць Фішар, Алёхін, Капабланка, Бацвіннік. А хто гэтыя ўсе людзі? Вось і заданне да наступнага ўрока: пачытайце пра іх. Гэта расшырыць ваш агульны кругагляд і эрудыцыю.

3. Зарэгіструйцеся на любым шахматным партале, дзе можна бясплатна гуляць у шахматы.

Адзін з іх: chess-samara.ru. На партале ёсць шмат урокаў, можаце гуляць у шахматы, ёсць шмат цікавых артыкулаў. Ёсць беларускі цікавы партал chess.by .

4. Прысвячайце шахматам па паўгадзіны ў дзень, і ўжо праз тыдзень вы БУДЗЕЦЕ ГУЛЯЦЬ!

Цяпер канкрэтныя парады па навучанні тым, хто ўмее гуляць і хоча навучыць іншых.

Акрамя простага тлумачэння правілаў і хадоў бярыце кніжку "Мат у адзін ход", расстаўляйце пазіцыю з кніжкі на дошцы і вырашайце з вучнем. Спачатку ўсё тлумачце, не спяшайцеся, не нервуйцеся і рашайце, рашайце, рашайце.

5. Ці можна пачынаць гуляць не з пачатковай пазіцыі. Ніжэй я прывяду некалькі пазіцый, з якіх можна пачынаць гуляць і трэніраваць навыкі валодання фігурамі. І такія пазіцыі можаце прыдумаць самі. Галоўнае – малая колькасць фігур. Як кажуць шахматысты, менш фігур – лягчэй гуляць. Разбярыцеся з малой колькасцю фігур, а потым ужо гуляйце з поўным камплектам.









6. Практычныя трэнінгі матаў. Расстаўляйце пазіцыі і трэніруйце практычныя навыкі матавання варожага караля. Дыяграмы для гэтага знойдзеце на сайце rh.by.

Калі навучыцеся ставіць мат ладдзёй і каралём супраць голага караля саперніка, лічыце, што дасягнулі добрага ўзроўню. І калі прарашаеце ўсе задачы з маёй кніжкі "Мат у адзін ход", патрабуйце ў мяне прысваення чарговага дарослага спартыўнага разраду.

У шахматах існуюць такія спартыўныя разрады: 5 (пачатковы), 4, 3, 2, 1 і далей КМС (кандыдат у майстры спорту), майстар спорту, гросмайстар.

І напрыканцы задачка з кніжкі №23. Тут кожны з бакоў пры сваім ходзе можа аб'явіць мат саперніку.



Усім поспеху ў асваенні шахмат. І хай будзе свята на полі h8!

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі.**

# Максім Чабрыцкі: **футбол – гэта мая свабода**

МАЛАДЗЕЧНА

**Мы працягваем рубрыку "Лепшыя футбалісты лепшага горада".**



І сёння ў нас у гасцях футбаліст-філосаф **Максім Чабрыцкі.**

Падчас сустрэчы Максім разважаў пра футбол і пра маладзечанскі фестываль, пра сям'ю і сяброў, пра дабро і дапамогу.

– Вось, дарэчы, не так даўно еxаў я з рынку, а дарогу пераходзіла бабуля з дзвюма цяжкімі сумкамі. Я думаю, дай дапамагу перайсці дарогу хутчэй. Потым, адчуўшы, што сумкі сапраўды цяжкія, прапанаваў падвезці да прыпынку. У машыне спытаўся: "Дзе вы жывяце?" – "У Сечках". У Сечкі я бабулю не павёз, але завёз да вакзала. Яна выйшла з машыны і цалавала мне рукі. Няёмка было. Але гэта ўчынак, які не патрабуе ніякіх асаблівых высілкаў, мяне так выхавалі.

Выхоўваўся Максім Чабрыцкі ў звычайным маладзечанскім двары.

– Мы ж раслі без інтэрнэту, таму, вядома, усе ганялі ў футбол. Каб гуляць на ўзроўні, я запісаўся ў футбольную секцыю. А потым стаў гуляць за "Забудову", прывык па суботах ездзіць у аўтобусе і пайшло-паехала.

Калі пару гадоў таму назад паўстала пытанне, ці быць футболу ў Маладзечне, Максім паставіўся да гэтага па-філасофску.

– Ніколі ў мяне нават думкі не ўзнікала пра тое, што горад застанецца без футбола. У Маладзечне ёсць футбол. І гэта не аспрэчваецца і не зменіцца. А вось за тое, што гледачу трэба відовішча, адказныя мы, футбалісты.

Сёлета каманду "Маладзечна-ДЮСШ-4" узначаліў новы трэнер **Сяргей Дараховіч**.

– Новы? Толькі той, хто ні разу не бачыў маладзечанскі футбол, можа сказаць, што Івановіч новы. Ён, мне здаецца, быў заўжды. Івановіч – гэта чалавек-парада. Ён заўсёды быў побач з броўкай, даваў парады. І мне б хацелася, каб Сяргей Дараховіч узяў мяне ў памочнікі.

Каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" тры гульні запар сыграла ўнічыю.

– І ведаеце, пачаліся напады на трэнера: дзе ачкі, дзе гульня? Думаю, яму таксама цяжка ў новай ролі. Але я вам так скажу: ачкі будзем па восені лічыць.

Перажывае Максім Чабрыцкі і за тое, што іх каманда пакуль паказвае не гульню, а эпізоды.

– Вельмі крыўдна з-за гэтага, пасля гульні разбіраемся, што не так, чаму не забілі. У мяне асабіста ёсць праклятце Любані. Некалькі гадоў таму ў фінале я не забіў ім. Лік застаўся 1:1. Маладзечна не заняло тады першае месца. Сёлета гулялі з імі. У мяне таксама была магчымасць забіць. Не забіў.

За іншымі камандамі ў беларускім футболе Максім не сочыць.

– Папрасіце мяне назваць беларускіх футбалістаў. Я з цяжкасцю назаву пяцярых. Няма ў Беларусі футбола. Ёсць БАТЭ і іншыя. А тое, што кажуць, быццам БАТЭ не будзе чэмпіёнам сёлета, дык каму ад гэтага лягчэй. Дай бог, калі гэта атрымаецца таму, што іншыя каманды падцягнулі ўзровень, а не панізіў сваё майстэрства БАТЭ. Пераможа хтосьці іншы, значыць, нам будзе сорамна ў Лізе чэмпіёнаў.

У "Іслачы" гуляе пляменнік Максіма **Уладзіслаў Фёдараў.**

– У нас з ім розніца 13 гадоў. Я, можна сказаць, быў яго першым трэнерам. А цяпер гляджу на яго і не разумею, чаму ў "Іслачы" не даюць яму гуляць. Там гуляюць футбалісты, якім пад сорак гадоў. Глядзіш навіны еўрапейскага ці сусветнага футбола, там вундэркінды з'яўляюцца па 17-18 гадоў. Чаму ў нас не даюць гуляць малым, я не ведаю.

Што датычыцца сваёй каманды, то Максім упэўнена адказвае, што яны добры калектыў.

**Афарызмы Максіма Чабрыцкага:**

**– Толькі дохлы конь рве са старту.**

**– Калі гуляць у футбол без эмоцый, то лепей рабіць гэта на PlayStation.**

**– У жыцці фінціць не трэба, для фінтоў ёсць футбольнае поле.**

**– Дысцыпліна толькі павінна быць. Я раней і вочы баяўся ўзняць на Вышынскага. А то хіханькі ды хаханькі, тры гульні хаханькі ў нас ужо, а выніку няма.**

Год таму інтэрнэт абляцела відэа, дзе **Аляксандр Альховік** дае ў карак **Сяргею Лавору** за тое, што той стаў спрачацца на полі.

– Вось бачыце, у нас кожны выхоўвае адзін аднаго. І правільна даў. Лавора не спыні, дык ён нагаворыць! Хаця ў апошні год Сяргей падрос, паразумнеў. Цяпер бы па карку не атрымаў, калі толькі па задніцы.

Максім прызнаецца, што і сам такі, на футбольным полі вельмі эмацыйны.

– Магу з лёгкасцю зарабіць чырвоную картку. Але стрымліваю сябе, бо калі хлопцы ў распранальні расскажуць мне, як ім гулялася без мяне, думаю, мне гэта не спадабаецца.

Бліжэйшы хатні матч "Маладзечна-ДЮСШ-4" сыграе супраць каманды "ЮАБ Жыткавічы".

– Перад гульнёй мы больш настройваемся эмацыйна, а трэніруемся тры разы на тыдзень. Напярэдадзе ў нас гуляюць вельмі творчыя хлопцы **Голуб**, **Талькоўскі**, Лавор, **Пустаход**. Мяне якую гульню ўжо выкарыстоўваюць як правага абаронцу, а так хочацца наперад.

На пытанне, ці не крыўдзіцца сям'я на тое, што Максім па суботах на гульні, а не дома, Максім адказвае:

– Жонка ж ведала, за каго замуж ідзе.

Максім Чабрыцкі жанаты ўжо 10 гадоў. Ажаніўся ў 22 гады. У пары Чабрыцкіх падрастаюць тры дачкі. Старэйшым двайняткам сем гадоў. Малодшай – тры годзікі.

– Раней жонка верыла ў тое, што, калі яна прыйдзе на гульню, мы прайграем, таму не хадзіла. Цяпер, бывае, з дочкамі прыходзіць. Але футбол – гэта мужчынскі свет. Тут жанчыне няма чаго рабіць. Вось ёсць у нас у Маладзечне жанчына – суддзя. Я не ведаю, як яна вытрымлівае тут, у гэтым свеце, мацюкі і грубасць. Жанчына павінна быць жанчынай – пяшчотнай і жаноцкай.

**– А бацька вы харошы?**

– Гэта трэба ў дочак спытацца. Так, я і кашу зварыць магу, і косы заплесці, і на выхадных завезці на поні пакатаць або ў парк.

**– Значыць, вы шчаслівы чалавек?**

– А я не ведаю, што такое шчасце. Што можна назваць шчасцем? Тое, што ты не глядзіш, колькі што каштуе ў магазіне? Тады не. Ці здароўе сваё і блізкіх? Ці наяўнасць сяброў? Ці тое, што ёсць магчымасць займацца любімай справай. Калі гэта, то так.

## Бліц:

**– Калі музыка, то...**

– Сучасная, я спяваць і сам люблю. Спяваю ў душы. А націск пастаўце як захочаце.

**– Калі адпачынак, то...**

– На прыродзе, з сям'ёй і сябрамі. Лазня, возера, палаткі.

**– Чаго не зможаце дараваць людзям?**

– Здрады.

**– Якой стравай можаце парадаваць жонку?**

– Сушы з магазіна.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Большасць планет Сонечнай сістэмы рухаецца адносна сонца па гадзіннікавай стрэлцы, акрамя двух. Гэта Венера і …
3. Трэцяя частка месяца.
4. Мастацтва сцэнічнага танца.
5. Мастак з Маладзечна, які ў чэрвені зладзіў галерэю на сметніцы.
8. Паўвостраў, на якім размешчаны вулкан Ключавая сопка.
10. Вёска ў Мядзельскім раёне, дзе ад 2005 года штогод праводзяць фестываль народных промыслаў і рамёстваў.
14. Найменш скажэнняў мае карта, якая ахоплівае гэту краіну.
17. Калі гатунак чаю – рассыпны.
18. Сплаў ртуці з іншымі металамі.
19. Перыядычнае друкаванае выданне.
20. Роднасная архідэі трапічная расліна і яе плады, якія выкарыстоўваюць у кулінарыі і парфумерыі.
21. Прозвішча расійскага акцёра, які здымаўся ў тэлесерыяле "Апошні браняпоезд" у 2006 годзе побач з чыгуначным мостам праз Вілію на ўчастку Маладзечна-Полацк.
24. Не будзь … на чужыя кілбасы.
25. Дакладна адмераная колькасць.
26. Шторы ці аканіцы з жорсткіх папярочных паралельных пласцінак.
30. Сцвярджэнне, якое патрабуе доказаў.
33. Мястэчка ў Смаргонскім раёне, дзе 4 снежня 1917 года было падпісанае перамір'е з немцамі. Праз 10 дзён перамір'е падпісалі ў Брэст-Літоўску, надаўшы яму больш шырокі статус.
34. Частка твару паміж брывамі.
35. Трэцяя ступень ліку.
39. Саюз, аб'яднанне.
40. Урачыстая званая вячэра ці абед.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Механічная прылада для падачы гукавых сігналаў.
5. Густое араматычнае рэчыва з утрыманнем эфірных алеяў і раствораных у іх смол, якое ёсць у кары некаторых дрэў.
6. Леў Сапега: "Мы павінны быць рабамі … для таго, каб мець магчымасць карыстацца свабодай".
7. Брута без нета.
9. Буйная марская драпежная рыба з некалькімі радамі зубоў.
11. Украінскі народны танец.
12. Бернард Шоу: "Экзамен добрага выхавання мужчыны і жанчыны – іх паводзіны, калі здарылася …"
13. Сасуд прыгожай формы для фруктаў ці кветак.
15. Вугал паміж накіраваннем на поўнач і накіраваннем на які-небудзь прадмет. Звычайна задаюць па гадзіннікавай стрэлцы на картах.
16. Конь Дон Кіхота.
19. Парушэнне рэлігійных правілаў.
22. Утвараецца пры нераўнамерным размеркаванні атмасфернага ціску.
23. Каралавыя астравы, якія маюць форму кольца і выступаюць над морам на невялікую вышыню.
27. Нізкі жаночы ці дзіцячы голас.
28. Краіна, якая ў 15 стагоддзі дасягнула найбольшай магутнасці сярод еўрапейскіх дзяржаў, але праз паўтара стагоддзя страціла велізарныя багацці, апынулася ў пазыках і згубіла ўплыў. Прычыны ў незацікаўленасці шляхты развіццём сельскай гаспадаркі, неўкладаннем у прамысловасць, разараючых войнах, інквізіцыі і тым, што амаль чвэрць насельніцтва стала духавенствам.
29. Грошы ці іншыя каштоўнасці, якія выдаюць наперад у лік заробку.
31. Як з грэчаскай перакладаецца "троф"?
32. Цвёрды мінерал, разнавіднасць халцэдону.
36. Гэтае сузор'е вавілонцы называлі "Лясной птушкай", арабы – "Курыцай". Як называем яго мы?
37. Рахунак закрыты, калі яно роўнае нулю.
38. Асноўнае збудаванне.
41. Пра якую навуку сказаў Цыцэрон: "Грэкі вывучалі яе, каб пазнаць свет, а рымляне – каб вымяраць зямельныя ўчасткі".
42. Кароткае верхняе адзенне.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №23

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** Па гарызанталі. 1. Арнамент. 3. Таямніца. 6. Дамінанта. 8. Абора. 13. Рэчы. 14. Сяброў. 15. Завядзёнка. 16. Брокер. 17. Агіда. 18. Яўрэі. 22. Заўвага. 25. Жым. 26. Выбрык. 27. Грот. 28. Дысіміляцыя. 30. Колькі. 31. Абертон. 32. Дзот. 33. Джынсы. 36. Мабільнік. 37. Вячэра.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Адведкі. 4. Замужам. 5. Змрок. 7. Амалфея. 9. Парэчкі. 10. Гарбарня. 11. Перамога. 12. Браслаў. 19. Герц. 20. Алегра. 21. Бюракрат. 23. Егер. 24. Замак. 25. Жабо. 26. Вынік. 29. Вольт. 31. Абзац. 33. Домна. 34. Вішнева. 35. Трамвай. 38. Высмаглы. 39. Гіпюр.

## ГАРАСКОП 16-22 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Не спяшайцеся спрачацца з-за супрацьлеглых меркаванняў ці супярэчных звестак. Непрыемныя сітуацыі, у рэшце рэшт, самі сабой вырашацца, а вы станеце мудрэйшымі, пераждыўшы іх.



**ЦЯЛЕЦ.** Не спяшайцеся ўсё зрабіць, бо немагчыма за такі кароткі час справіцца з такім вялікім аб'ёмам работы. А час і сілы трэба размеркаваць так, што вы не толькі наладзіце справу, але і зможаце заняцца ўласным жыццём, а таксама з'явіцца нядрэнная перспектыва паспяховага прасоўвання па службе.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы схільныя да набору вагі, таму заняткі спортам, фізкультурай будуць вельмі дарэчы. Займайцеся тым, на што расходуецца шмат энергіі. А яшчэ для вас цяпер важна ацаніць свае ўчынкі, прыняць і зразумець памылкі – гэта аснова вашай будучыні.



**РАК.** Дні складуцца паспяхова для тых, хто вырашыў змяніць свой імідж. На выхадныя схадзіце ў салон прыгажосці, наведайце візажыста. Купляннe моднага адзення таксама станоўча адаб'ецца на вашым знешнім выглядзе. Гэта цудоўны час для забаўляльных паездак, знаёмстваў, у тым ліку і рамантычных.



**ЛЕЎ.** Пераадоленне фізічных нагрузак, якія зваліліся на вас, патрабуе вялікіх затрат энергіі, што прыводзіць да стомленасці. Для папаўнення балансу сіл не забывайцеся пра адпачынак. Цяпер добры час, каб нешта змяніць у доме, зрабіць якія-небудзь набыткі, заняцца сваім хобі.



**ДЗЕВА.** Не злоўжывайце лекавымі прэпаратамі і алкагольнымі напоямі. Любая "хімія" можа аказаць неспрыяльны ўплыў на ваша здароўе. Няпросты час для падтрымання парадку на працы і ў побыце. Але добры час для пошукаў новай працы і знаёмства з новым працоўным калектывам. Не выключаная любоўная сувязь з чалавекам, які займае больш высокае па статусе становішча.



**ШАЛІ.** Цяпер немагчымае становіцца магчымым і нашмат бліжэй, чым калі б там ні было. У ваша жыццё можа вярнуцца чалавек, гісторыя з якім яшчэ не закончаная – у яе можа быць працяг.



**СКАРПІЁН.** У вас можа ўзнікнуць шмат клопатаў дома. Гэта могуць быць звычайныя бытавыя праблемы, звязаныя з паломкай водаправода, электрычнасці, бытавых прыбораў, якімі, аднак, прыйдзецца займацца. Калі вы водзіце машыну, то вас могуць аштрафаваць за парушэнне правілаў дарожнага руху. Але вам можа і ўсміхнуцца ўдача – купіце латарэйны білецік.



**СТРАЛЕЦ.** Дні будуць напоўненыя энергічнымі дзеяннямі, цікавым адпачынкам і дробнымі ўдачамі. Уражанне могуць трохі прыпсаваць цяжкасці ва ўзаемаадносінах з навакольнымі. Але тут ёсць просты рэцэпт: рабіце ўсё ў адзіночку. А яшчэ не прабівайце лбом сцяну, а адступайце, як толькі сутыкнуліся з перашкодамі. Няма сэнсу змагацца з імі – хутка яны самі знікнуць, а вы зэканоміце сілы.



**КАЗЯРОГ.** Вам, хутчэй за ўсё, захочацца пазбавіцца ад усяго таго, што аджыло, і пачаць жыццё нанова – усё ў вашых руках. Напішыце на паперцы спіс таго, што вам хочацца зрабіць, і выконвайце.



**ВАДАЛЕЙ.** У вас можа сарвацца паездка, якая была раней запланаваная. Другая праблемная тэма можа быць звязаная з няўдалымі расходамі на падарункі і забавы. Падарунак, які вы купіце каханаму, дзіцяці, можа не спадабацца, і вас гэта будзе вельмі засмучаць. Затое добры час, каб папрацаваць усёй сям'ёй на садова-агародным участку.



**РЫБЫ.** Усё складваецца аптымістычна. У вас можа адбыцца рамантычнае знаёмства на вуліцы ці ў грамадскім транспарце. Калі вы адзінокія, абавязкова адгукайцеся на спробы такога роду знаёмстваў – гэта дасць вам шмат прыемных імгненняў у асабістым жыцці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 4 | | 7 | | 6 |
| 4 | | 1 | | | | | 8 | |
| 6 | | | 8 | | | | | |
| | | 2 | 4 | 6 | | 8 | | |
| | 3 | | 7 | 5 | 2 | | 6 | |
| | | 9 | | 1 | 8 | 2 | | |
| | | | | | 4 | | | 7 |
| | 9 | | | | | 3 | | 5 |
| 2 | | 6 | | 3 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



## КУДЫ СХАДЗІЦЬ

# Пятніца, 16 чэрвеня, ва ўстановах культуры Маладзечанскага раёна

Калі вам раптам надакучыў горад, а ў пятніцу душа рвецца на прыроду, то наша афіша для вас. Цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечанскага раёна прапануе:

У Заскавіцкім СДК у 11:00 – танцавальная дзіцячая праграма

У Пранчэйкаўскім СДК, 11:00 – інфармацыйная праграма "Спайс – гэта не гульня"

Побач з Беразінскім СДК на пляцоўцы ў 12:00 – гульнёва-забаўляльная праграма "Чароўнае дзяцінства"

У Красненскім СДК у 11:00 – квэст-гульня "Школа дэтэктываў"

У Раёўскім СДК у 11:00 – гульнёвая праграма "Кракадзіл"

У Алёхнавіцкім СДК у 11:00 – літаратурная гасцёўня "Беларусь – яны дастойныя сыны твае".

**Уваход вольны.**

